*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 7 лістапада 1986 г. № 45 (3351) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# СЛАВА ВЯЛІКАМУ КАСТРЫЧНІКУ!



## ЮНЕСКО—40 гадоў

Адбылося пасяджэнне Камісіі БССР па справах ЮНЕСКО, прысвечанае 40-годдзю гэтай міжнароднай арганізацыі, якая займаецца пытаннямі адукацыі, навукі і культуры.

З дакладам «40 гадоў ЮНЕСКО» выступіў старшыня камісіі, намеснік міністра замежных спраў БССР А. Шэльдаў. Ён расказаў аб ролі ЮНЕСКО ў справе міжнароднага супрацоўніцтва, змагання за мір, газарыў аб удзеле Беларускай ССР у рабоце ЮНЕСКО.

На пасяджэнні выступілі таксама кіраўнік Беларускага аддзялення агенцтва друку навіны (АДН) А. Стук і член Беларускай секцыі праграмы ЮНЕСКО «Чалавек і біясфера» доктар біялагічных навук У. Саўчанка.

## Узнагароды савецкім паэтам

Міжнародная прэмія імя Х. Боцева за 1986 год 3 лістапада была ўручана беларускаму паэту і публіцысту Н. Гілевічу і ўкраінскаму паэту Д. Паўлычку. Яны прымалі ўдзел у прайшоўшай у Сафіі VI міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў пад дэвізам «Мір — надзея планеты».

Пры ўручэнні ўзнагарод намеснік старшыні Дзяржаўнага Савета НРБ Г. Джагараў падкрэсліў уклад савецкіх літаратараў у папулярызацыю твораў вядомых балгарскіх паэтаў і празаікаў.

## Слова за мір

Работнікі Дзяржкамвыда БССР, супрацоўнікі рэспубліканскіх выдавецтваў, Дзяржаўнай кніжнай палаты БССР, кіраўнікі кніжнага гандлю рэспублікі правялі мітынг, прысвечаны Тыдню дзеянняў за раззбраенне, які праходзіў па ініцыятыве ААН і Сусветнага Савету Міру ў рамках Міжнароднага году міру.

Мітынг адкрыў галоўны рэдактар Дзяржкамвыда БССР У. Яцко.

Старшы рэдактар выдавецтва «Беларусь» Б. Налівайка, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Спрынчан, машыністка выдавецтва «Народная асвета» В. Чэрнікава, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Полымя» В. Санько, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Юнацтва» М. Кенька ў сваіх выступленнях выказвалі пачуццё гонару за нашу сацыялістычную Радзіму, якая вылучыла канкрэтную праграму знішчэння ядзернай зброі да 2000 года, гнеўна асуджалі авантурыстычныя планы адміністрацыі Рэйгана на далейшую гонку ўзбраенняў, на дасягненне ваеннай перавагі над Савецкім Саюзам.

У мітынгу прыняў удзел старшыня Дзяржкамвыда БССР М. І. Дзялец.

УНУМАРЫ:

рассветаўцамі, ды няма яму часу: трэба ж спяшацца першым уключыцца ў наступную гаспадарчую кампанію, каб не злезці з раённай Дошкі гонару. Такіх шумліва-старанных гаспадароў, як Афонькін, заўжды «падсаджвае» на Дошку нехта Груздоў.

З Груздовым я пазнаёміўся ў калгаснай канторы. Падаўшы руку галоўнаму аграному Лянкевічу, ён сказаў:

— Штосьці туга ў вас са здачай зерня. Чаму вы марудзіце?

— Ляжыць пакуль у свірнах, Сямён Рыгоравіч, даспявае, набірае вагу. Хочам здаць не на фураж, а як насенне. Лабаранты сочаць за ім.

— Ваша гаспадарка ў раённай зводцы многае значыць,— як бы апраўдваючыся, давадзіў, між тым, штурхач з Кіраўска. — Толькі па вывазцы арганікі на палі таксама адстаеце. Па нашай зводцы — вывезлі ўсяго 14 тысяч тон.

Лянкевіч зноў пазваніў камусьці. Аказалася, ужо 33 тысячы... Як паказала статыстыка, па рэспубліцы на гэты дзень было вывезена 92,5 працэнта ад задання. Так і пісалі газеты: «ад задання»!

— Туга плюсуеце... У панядзелак нам трэба закрываць зводку і дакладваць вышэй...

Размова працягвалася ў гэтым жа плане: нічога пра справу, зямлю, яе структуру, тэхналогію апрацоўкі, а ўсё пра зводку, у якой калгас «Чырвоны баец», напэўна, ужо і здаў, і вывез, і значыўся ў лідэрах, а «Рассвет» адставаў, бачыце...

Калі Груздоў развітаўся і выйшаў, Лянкевіч сказаў з дакорам:

— Кіраваў ён у нашым раёне адной гаспадаркай — нічога добрага, дык яго начальнікам упраўлення зрабілі і выбралі старшынёй савета РАПА.

От табе маеш!

І які яшчэ парадокс! У той самы час, калі таварыш Груздоў, кіруючыся «інтарэсамі службы», рабіў зводку і паскараў вывазку зерня з гаспадарак раёна (у «Рассвеце», дарэчы, ён стараўся быць мяккім, бясстрасным), думкі старшыні «Рассвета» працавалі зусім у іншым кірунку. Васіль Канстанцінавіч разважаў над тым, як паставіць справу, каб наогул не вывозіць з гаспадаркі зерне новага ўраджаю. Чаму?.. Кожны акт гаспадарчай чыннасці павінен мець пэўны сэнс, якога шукаюць у эканамічных разліках. Калгасы і саўгасы здаюць збожжа дзяржаве з часоў першых пяцігодак. Аднак тады гэтае зерне назад у гаспадаркі не вярталася, яно рабілася прадуктам, хлебам у засеках краіны, і зразумелым было імкненне сельскагаспадарчых арцелей хутчэй і па ўсіх правілах разлічыцца з дзяржавай—гэта рабіла ім гонар. Склаліся традыцыі, і яны, напэўна, не выклікаюць сумнення і сёння на Кубані і ў іншых раёнах краіны, якія кормяць нас хлебам, пшанічным і жытнім... Іншая справа ў нас, у Беларусі, дый, відавочна, у Прыбалтыцы і Нечарназёмнай зоне, дзе, у выніку рэгіянальнай спецыялізацыі, гаспадаркі перайшлі да інтэнсіўнага развіцця жывёлагадоўлі і падаюць да стала дзяржавы не хлеб, а малако і мяса. Сабранага ўвосень збожжа тут не стае, каб разам з грубымі кармамі скласці рацыён жывёлы. От Старавойтаў і маракуе: калі, па завяршэнні жніва, вывезці з рассветаўскіх свірнаў груз у некалькі тысяч тон на дзяржаўны элеватар, а потым забраць адтуль (і ўжо нават не столькі, а ў два разы больш!), то ці ёсць у тым сэнс? Ці не лепей змалоць зерне на месцы?! А ў гэтым годзе, пры такім рэкордным, лічы, ураджаі, свайго збожжа якраз бы хапіла...

Клопат Васіля Канстанцінавіча быў пільны, стратэгічна-гаспадарчы, дзяржаўны клопат, і я ведаў, што не аднаму пераемніку Арлоўскага пра гэта галава баліць.

Уявім справу шырэй. Закупка зерня дзяржавай у гаспадарках нашай рэспублікі за гады дзесятай пяцігодкі склала 1,3 мільёна тон у сярэднім на кожнае лета, а расход канцэнтратаў, уключаючы натуральнае зерне — 5,6 мільёна тон.

Такім чынам... Ідэя захапіла Старавойтава цалкам.

— Патрэбен млын... Я зраблю. Падлічыце, колькі сэканоміца працы, сродкаў і часу ў людзей... А бензіну на транспарціроўку? — І дадаў з ціхай скрухаю: — Качаем мы ўраджай, як дурань калоду!

Дык чаму гэта хвалюе Старавойтава, а не Груздова? Кіраўніка нізавога звяна, а не раённага? Падпарадкаванага, а не таго, якое п а р а д к у е і чыніць палітыку ў нізавых звеннях? Ды, мусіць, таму, што яны розна працуюць: адзін, абапіраючыся на гаспадарчы разлік, другі— на літару службовай паперы, што яны наогул выступаюць носьбітамі розных пачаткаў у працы: адзін — творчага, другі — выканальніцкага і што рупіць ім рознае: аднаму — канчатковы вынік гаспадарчай дзейнасці, другому — прэстыж выдатнага выканаўцы. Словам, нягледзячы на адну гаспадарчую сістэму, яны працуюць як бы ў розным ключы. Але ж зямля ў іх адна, і яны не могуць мірна разысціся на ніве, падуладнай іх рупнасці, і кожны імкнецца падпарадкаваць сабе, свайму пачатку другога. Таму яны нярэдка бачаць адзін у адным свайго супраціўніка, а то і шкодніка агульнай справе.

Цікава, што сістэма, стыль, дух адміністравання ствараюць умовы, у якіх любую пасаду можа займаць самы здольны або самы няздатны спецыяліст; і працаваць яны будуць з аднолькавым поспехам. Толькі гэтым можна вытлумачыць факт з'яўлення ў раённым кіруючым звяне самога Груздова.

Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў — наогул чалавек вытрыманы, абыходлівы ў адносінах з начальствам, таму, калі ён паўставаў супраць чаго-небудзь, то гэта азначала, што яго душэўны лад канчаткова парушаны і няма як болей трываць.

За адным фактам стаяў другі, за Груздовым бачылася з'ява, якая сваёй шэрасцю і безаблічнасцю закрывала і азмрочвала ладны кавалак неба над Мышкавічамі і Кіраўскам; тады Васіль Канстанцінавіч і надумаўся даць груздоўшчыне бой. А памог выпадак: на пленуме Магілёўскага абкома партыі якраз разглядаўся стыль работы кіраўскага раённага кіраўніцтва, і яму прапанавалі выступіць.

— Калі дазволіце гаварыць начыстую — выступлю. Інакш— не хачу і лічу непатрэбным.

— Толькі так! — падтрымаў яго сакратар абкома.

З прамовы на пленуме старшыні калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага — В. К. Старавойтава:

«Я з'яўляюся членам бюро райкома партыі і за многія недахопы ў яго рабоце таксама нясу сваю меру адказнасці.

Ключавым для нас, камуністаў, заўсёды было і будзе пытанне аб падборы, расстаноўцы і выхаванні кадраў.

Адказныя работнікі высокага рангу ў размовах паміж сабой часам наракаюць: няма, маўляў, у нас такога рэнтгену, каб загадзя вызначыць, як будзе працаваць той або іншы таварыш на новай пасадзе.

Думаю, што меркаванне такое памылковае. Такі рэнтген ёсць. Гэта — думка калектыву пра чалавека, дзе ён працуе, думка таварышаў па партыі, калег. Астаецца толькі шкадаваць, што гэтаму калектыўнаму выпраменьванню мы не надаём пакуль належнай увагі.

Практыка апошніх гадоў, не толькі ў нашым раёне, дае нам дастаткова прыкладаў, калі палітычна нясмелыя, у сучаснай грамадскай вытворчасці абмежаваныя і непісьменныя людзі, робячыся начальнікамі, наносяць нашай справе непапраўныя страты.

У Кіраўскім раёне ўзяты курс на абнаўленне кіруючых кадраў. Заменены многія старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, начальнікі службаў. Тамсям кіраўнікоў спешна давялося мяняць другі раз, а справа ад гэтага не паляпшаецца. Такая кадравая чахарда, на мой погляд, сведчыць пра грубае парушэнне партыйных прынцыпаў у рабоце з кіруючым персаналам і наогул людзьмі. Сакратар райкома Рыгор Емяльянавіч Папкоў пры вылучэнні чалавека на тую або іншую пасаду кіруецца не дзелавымі якасцямі таго, а сваімі сімпатыямі, сяброўскай прыхільнасцю. Вынікам шматгадовых асабістых адносін стаў факт вылучэння на пасаду начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі былога старшыні праўлення калгаса «III з'езд Саветаў» Сямёна Рыгоравіча Груздова. На бюро райкома партыі гэтае пытанне папярэдне не абмяркоўвалася. Таварыш Груздоў дзесяць гадоў кіраваў гаспадаркай. Па ўзроўні вытворчасці малака і мяса гэтая гаспадарка не дасягнула нават сярэдніх раённых паказчыкаў. Затое грашовая запазычанасць намнога ўзрасла. Адсюль узнікае пытанне: ці можа гэты начальнік зрабіць глыбокі аналіз гаспадарчай дзейнасці калгасаў і саўгасаў раёна? Або ад яго гэта не патрабуецца? Або таварыш Папкоў за яго гэта зробіць?..

Вясной 1983 года два гэтыя начальнікі вылучылі на пасаду старшыні праўлення калгаса імя Калініна ўжо нейкага Рыжкова, які працаваў сем гадоў поруч з Груздовым у калгасе «III з'езд Саветаў» і пакінуў па сабе нядобрую памяць у людзей. Пытанне вылучэння Рыжкова таксама не абмяркоўвалася на бюро. І што далей?

Стаўшы старшынёй гаспадаркі, Рыжкоў мала клапаціўся пра яе поспех, дапускаў грубыя пралікі і абражаў людзей, а Папкоў і Груздоў, і старшыня камітэта народнага кантролю Карпук пастаянна, днём і ноччу, апякалі яго, берагалі ад крытыкі камуністаў і простых калгаснікаў. Скончылася справа тым, што гэты нашчадак Астапа Бэндэра, папрацаваўшы трохі, вынайшаў камбінацыю і запусціў рукі ў калгасную касу. Цяпер ён павінен прадстаць перад народным судом і ўсяляк віхляе, шукае заступніцтва, дарэчы, ездзіць штораз у абласны цэнтр на службовай машыне начальніка сельгасупраўлення. А ну ж ці не знойдуцца там абаронцы, заступнікі яму?

На жаль, часам знаходзяцца. Нават — нярэдка. Па сутнасці, груздоўшчыну паказаў Іван Васільеў у сваёй аповесці «Землякі».

(Працяг на стар. 13)

---

**вашай рэспубліцы, дзе збіраў матэрыялы для спецвыпуску...**

**Шмат спраў у гэтыя дні ў работнікаў Дома імя Івана Цанкара. Яны ўзялі на сябе ўсе клопаты па мантажы беларускіх выставак і забеспячэнні гасцей транспартам. Мінскіх артыстаў яшчэ не было ў Любляне, а тут падрыхтавалі ўжо да іх выступленняў інструменты, прывялі ў парадак канцэртныя касцюмы. Рабочыя тэрмінова абнавілі пакрыццё сцэны.**

**У штабе Дзён культуры, які размясціўся ў атэлі «Леў», рабочы дзень заканчваецца апоўначы. Паўсюль карты, схемы, графікі, не змаўкаюць тэлефонныя званкі. Перад арганізатарамі стаіць няпростая задача: падзеі — штодзень у паўтара дзесятках месцах, аддаленых за сотні кіламетраў, і трэба з дакладнасцю да мінуты разлічыць: калі і куды падаць транспарт, размясціць артыстаў так, каб хапіла месца для рэквізіту, накарміць гасцей, і не толькі смачна, але і хутка. А ў такіх масавых мерапрыемствах гэта нялёгка.**

**Кіраўнік штаба — дырэктар культурных праграм Дома імя Івана Цанкара Сяргей ДОЛЕНЦ гаворыць:**

**— Я быў на Днях культуры Славеніі ў Беларусі і застаўся ў захапленні ад таго, як яны былі арганізаваны. Таму нам давялося вельмі многа папрацаваць, каб падрыхтаваць для беларускіх сяброў такі ж прыём.**

## НАВАТ СОНЦА ЎСМІХНУЛАСЯ...

**У Любляне сонца не ўстае з-за гарызонта, як, скажам, над віцебскімі люстрамі азёр або палескімі прасторамі, а, быццам шар, выкатваецца ў вузкую даліну між дзівосна прыгожых, лясістых гор. Пераваліўшы цераз альпійскі хрыбет, святіла спрабуе прабіцца сваімі праменямі праз густое малако ранішняга туману, які шчыльна ахутвае распасцёртую ля падножжа ўзгоркаў сталіцу Славеніі. Але скрозь густую заслону святло ледзь прабіваецца, і раніца прыходзіць сюды са спазненнем. Для гараджан гэта ўжо прывычная з'ява, але з ёй з цяжкасцю звыкаюцца прыезджыя.**

**Папулярны славенскі пісьменнік, прафесар, доктар, член Прэзідыума ЦК Саюза камуністаў Славеніі Мацяж КМЕЦЛ прыгадаў люблянскі туман не выпадкова. Блізіцца поўдзень. Хутка павінен прыбыць самалёт з дэлегацыяй беларускіх майстроў культуры, але надвор'е нялётнае — даліна і горы, якія абступілі паўкальцом аэрапорт Брнік, што за 25 кіламетраў ад Любляны, так шчыльна пакрыты туманам, што нават светлабелы дыск сонца ледзь відзён.**

**— Абяцаю, што праз паўгадзіны будзе яснае сонца і чыстае неба — спецыяльна для беларускіх сяброў мы заказалі на тыдзень наперад выдатнае надвор'е, — усміхаецца ў вусы Мацяж Кмецл. — Сіноптыкі цвёрда запэўнілі нас: будзе ясна і значна цяплей, чым звычайна ў гэтую пару года...**

**Жарт пісьменніка аказаўся чыстай праўдай — яшчэ не прайшоў вызначаны ім час, як туман рассеяўся, стала бачна і нібыта бясконцая ўзлётна-пасадачная паласа, гаі на сініх горных кручах, яркая чарапіца дамкоў ля падножжаў далёкіх пагоркаў. Забягаючы наперад, скажу, што сіноптыкі стрымалі слова — усе дні свята былі такія ж цёплыя і ясныя, як і сустрэчы на славенскай зямлі.**

**Урачыста і святочна ўпрыгожаны аэрапорт Брнік, узняты Дзяржаўныя флагі СССР, СФРЮ, БССР і СР Славеніі. Тут жа транспаранты «Сардэчна запрашаем, дарагія беларускія сябры!» на славенскай і беларускай мовах. «ТУ-154», зрабіўшы спецыяльны рэйс Мінск — Любляна, выруляе на стаянку перад аэравакзалам. Медзь духавога аркестра паступова выцясняе гул авіяцыйных рухавікоў.**

**Цёпла, ад усёй душы, па-братэрску, як і належыць у старых і добрых сяброў, сустракалі намеснік Старшыні выканаўчага Веча Скупшчыны СР Славеніі, прафесар, доктар Барыс Фрлец, іншыя славенскія таварышы членаў афіцыйнай дэлегацыі Беларускай ССР, а таксама артыстаў Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР, Мінскага камернага аркестра, фальклорнага калектыву «Свята», вакальна-інструментальнага ансамбля «Верасы», Дзяржаўнага тэатра лялек БССР, салістаў Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра БССР і Белдзяржфілармоніі, прадстаўнікоў творчых саюзаў рэспублікі, Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.**

**Члены афіцыйнай дэлегацыі Беларускай ССР пабывалі на Люблянскім тэлебачанні — далі інтэрв'ю журналістам інфармацыйнай праграмы «Дзённік». Гутарка, пачатая ля тэлекамер, працягвалася на прэс-канферэнцыі ў Доме імя Івана Цанкара, на сустрэчы з дзеячамі культуры Славеніі.**

## І ЗНОЎ ГУЧАЦЬ ПЕСНІ

**Першы дзень свята беларускай культуры ў Славеніі — гэта не толькі першыя сустрэчы і першыя знаёмствы. Многіх майстроў мастацтваў нашай рэспублікі з нецярпеннем чакалі не толькі гледачы, але і асабістыя сябры. А іх у тых, хто прыбыў у Любляну, нямала. У народнага мастака БССР скульптара А. Анікейчыка, народнага артыста СССР, сакратара Саюза кінематаграфістаў рэспублікі В. Турава, першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Н. Гілевіча... Кантакты, якія завязаліся ў час Дзён культуры Славеніі ў Беларусі, пашыраюцца і ўмацоўваюцца.**

**13 кастрычніка галоўным месцам сустрэч і гутарак старых сяброў стаў Дом імя Івана Цанкара. Тут кінарэжысёр І. Дабралюбаў сустрэў свайго калегу і знаёмага Франца Штыгліца, які прадстаўляў у канцы мінулага года ў Мінску славенскі кінематограф. Было аб чым пагаварыць першаму намесніку старшыні Дзяржкамвыда БССР Р. Ткачуку і камерцыйнаму дырэктару паліграфічнай фірмы «Гораньскі ціск» Петэру Тробецу. Без перакладчыка абыходзіліся дырэктар Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Я. Клімакоў і яго калега з Любляны Ігнацый Суніч.**

**А вечарам у Доме імя І. Цанкара адбылося ўрачыстае адкрыццё Дзён. Прамоўца, намеснік Старшыні выканаўчага Веча Скупшчыны СР Славеніі, прафесар, доктар Барыс ФРЛЕЦ падкрэсліў: мы хочам, каб умацоўвалася дружба і ўзаемаразуменне паміж нашымі народамі. Толькі цесныя і шчырыя кантакты паміж усімі народамі свету, усё менш утульнага і ўсё больш пагрозлівага, могуць забяспечыць нам мір, жыццё і шчасце. Ва ўсіх народаў цяпер агульны лёс — або пагібель, або жыццё. Стане наша Зямля Хатынню або ператворыцца ў квітнеючы сад — рашаць нам. Ваша і наша гісторыі настолькі поўныя пакут і гора, што забываць пра гэта нельга.**

**Кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі Беларусі намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. МАЗАЙ перадала прысутным сардэчнае прывітанне і найлепшыя пажаданні ад працоўных Савецкай Беларусі, майстроў культуры і мастацтва рэспублікі.**

**Пасля цырымоніі ўрачыстага адкрыцця Дзён майстры мастацтваў Беларусі далі канцэрт. Ён пачаўся музычна-паэтычнай кампазіцыяй, у якой прагучалі вершаваныя радкі Пімена Панчанкі ў перакладзе Тоне Паўчака «Зорны час Беларусі». Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР, ансамбль цымбалістак і народная артыстка БССР М. Захарэвіч перадалі прывітанне славенцам ад беларусаў, мовай паэзіі і музыкі расказалі пра нашу рэспубліку. Адзін самабытны нумар замяняе другі. І вось ужо са сцэны льецца мелодыя «Беларусь, мая песня», «Заходзь, ясна сонейка», гучаць цымбалы, нараджаецца каскад беларускіх найгрышаў і танцаў.**

**Парадавалі гледачоў сваім мастацтвам Мінскі камерны аркестр, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, лаўрэат Усесаюзнага і міжнародных конкурсаў заслужаная артыстка рэспублікі Л. Колас, лаўрэат Усесаюзнага і міжнародных конкурсаў Г. Забара, заслужаная артыстка УССР В. Пархоменка, лаўрэат Усесаюзнага і міжнародных конкурсаў М. Гулегіна, салісты ДАВТа БССР І. Душкевіч і А. Куркоў, піяніст Ю. Гільдзюк.**

**Пад зводамі Дома імя Івана Цанкара загучалі трысняговыя жалейкі. Фальклорную кампазіцыю на тэмы беларускіх народных абрадаў, песень і карагодаў паказаў ансамбль «Свята». Цёпла прынялі гледачы верш Н. Гілевіча «Братам славенцам», які прагучаў на іх роднай мове.**

**Канцэрт заканчваецца. На сцэне — Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР. І вось нумар, які не значыўся ў праграме, — своеасаблівы сюрпрыз беларускіх артыстаў — песня «Славенія» на славенскай мове. Яе тут любяць людзі ўсіх узростаў, шануюць нароўні з гімнам. Загучалі яе першыя акорды, і разам з беларускімі спевакамі «Славенію» падхоплівае ўся зала, а сёй-той з пажылых людзей нават употай змахнуў слязу.**

## ВЕРНІСАЖЫ КАНЦЭРТЫ, КАНТРАКТЫ

**... Трохмосце — стары, утульны, любімы люблянцамі і гасцямі куток сталіцы Славеніі. Назвалі яго так з-за трох паралельных мастоў праз Люблянiцу. Па іх да плошчы і бліжэйшай ад гарадской ратушы вуліцы ў гэтую раніцу спяшаецца шмат людзей — іх увагу прыцягнулі чыстыя і высокія гукі незвычайных інструментаў, не-**

**(Заканчэнне на стар. 4)**

Ёсць на Стаўбцоўшчыне куточак, які асабліва блізкі і дарагі сэрцу кожнага беларуса. Хораша гучаць з маленства знаёмыя назвы: Акінчыцы, Альбуць, Ласток, Смольня, Мікалаеўшчына... Усе яны звязаны з імем народнага песняра Якуба Коласа. «Мой родны кут, як ты мне мілы...» — сказаў калісьці пра гэты куток нашай зямлі паэт. У мінулую суботу тут праходзіла чарговае Рэспубліканскае свята паэзіі.

На зямлю, што памятае крокі песняра, прыехалі вядомыя беларускія пісьменнікі, госці з Ленінграда, саюзных рэспублік. Пры ўездзе ў Стоўбцы гасцям былі ўручаны хлеб-соль, іх віталі ўдзельнікі народнага агіттэатра «Полымя» Стаўбцоўскага РДК і народнага фальклорнага хору Новасвержанскага лесазавода.



Выступае Васіль Зуёнак.



Госці ў Мікалаеўшчыне.

Фота Ул. КРУКА

# Ля Нёмана, на зямлі Коласа

## З Рэспубліканскага свята паэзіі на Стаўбцоўшчыне

Наступны прыпынак — у Акінчыцах, дзе 3 лістапада 1882 года ў сям'і лесніка Міхала Казіміравіча Міцкевіча нарадзіўся будучы паэт. Гасцей і шматлікіх аматараў паэзіі сустракаюць артысты фальклорнага ансамбля вёскі Узла Мядзельскага раёна.

Людна ў цэнтры Мікалаеўшчыны, ля помніка народнаму песняру. Сабраліся тут, як кажуць, старыя і малыя. Плыве над наваколлем песня «Мой родны кут...» — гэта спяваюць удзельнікі піянерскага хору Коласаўскай сярэдняй школы. Да мікрафона падыходзіць сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР В. Зуёнак. Зноў завітала свята ў тутэйшыя мясціны, *гаворыць ён, зноў сабраў* усіх нас ваш вялікі зямляк. Зноў гучыць і будзе гучаць несмяротная песня, а ўсе мы будзем кідаць позірк туды, дзе слаўны Нёман, берагамі якога хадзіў пясняр, збіраючы адметныя, аднаму яму вядомыя словы, каб скласці неўміручыя строфы... Нараджаліся творы, якія потым адгукнуліся ў сэрцы самога народа, мільёнаў працоўных.

Аб любві да творчасці земляка, аб тым, як сённяшнія школьнікі вывучаюць літаратуру, любяць паэзію, расказвае вучаніца Лена Белая. Эстафету прызнання ў любві да песняра, да яго несмяротнай творчасці працягвае М. Маляўка, таксама колішні мікалаевец.

Украінскі паэт У. Броўчанка чытае ў сваім перакладзе верш А. Вялюгіна «Партызанская школа», адзначае, што паэзіі беларускага песняра наканавана вечна жыць у народзе. Як бы ўзрадаваўся Якуб Колас, заўважае госць з Украіны, калі б ён мог быць тут, на гэтым свяце, сярод сваіх землякоў, убачыць, як папрыгажэў яго край, як квітнее яго родная мова, якой жыць у вяках.

У Смольні, дзе знаходзіцца філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа, гасцей чакаюць *фальклорны інструментальны* ансамбль Бярэзінскага раённага Дома культуры, фальклорны хор і аматарскае аб'яднанне «Гаспадыня» калгаса «Радзіма Коласа». Пад гармонік, цымбалы, бубен разам з самадзейнымі артыстамі ідуць у скокі і госці.

Знаёмства з экспазіцыяй філіяла дае магчымасць яшчэ раз далучыцца да старонак жыцця і творчасці песняра, убачыць той далёкі дзень, калі ўпершыню ў 1912 годзе ў сялянскай хаце, якая і сёння стаіць маўклівым сведкам гэтай сустрэчы, спаткаліся Якуб Колас і Янка Купала, каб назаўсёды пасябраваць, пранёсшы праз усё жыццё ўзаемную павагу і любоў.

А ў гэты час у Палацы культуры калгаса «Нёман» збіраюцца працаўнікамі палёў і фермаў, вучні, аматары літаратуры са Стоўбцаў. Хлебам-соллю вітаюць гасцей нёманцы. а старшыня праўлення Ю. Цвірка расказвае аб працоўных поспехах калгаса, аб тым, як ажыццяўляюць хлебаробы рашэнні XXVII з'езда КПСС. заданні дванаццатай пяцігодкі.

Дружнымі апладысментамі сустракае перапоўненая зала пісьменнікаў, прадстаўнікоў партыйных і савецкіх органаў, перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Адкрывае свята і вядзе лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа Максім Лужанін. Звяртаючыся да прысутных, ён падкрэслівае, што правядзенне Рэспубліканскага свята паэзіі супадае з 80-годдзем з дня надрукавання песняром свайго першага твора.

Верш «Наведванне дома Якуба Коласа» чытае Максім Танк.

Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль прыгадвае, што Наднямонне стала жыватворнай крыніцай для Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, іншых пісьменнікаў. Але менавіта Колас сваёй творчасцю ўзняў значэнне нашай зямлі, народа, слова на сусветную вышыню.

На мове ўзаемнасці, шчырасці і даверу вядуць з залай дыя*лог У. Броўчанка, І. Сабіла* (Ленінград), А. Вярцінскі, Д. Джабараў (Узбекістан), Р. Барадулін, Р. Скучайтэ (Літва), А. Грачанікаў, К. Цвірка, С. Пінчук (Украіна), Ю. Свірка, Н. Тулупава, Т. Бондар, М. Пракаповіч, У. Паўлаў.

Пасля невялікага перапынку гукі сурмы зноў клічуць усіх у залу. Пачынаецца вялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці, у якім прынялі ўдзел многія вядомыя калектывы Міншчыны. Праграма яго (аўтар сцэнарыя і галоўны рэжысёр свята паэзіі заслужаны дзеяч культуры БССР У. Таран) атрымалася маляўнічай, багатай і шчодрай на адкрыцці.

Да позняга вечара было людна ў калгасным Палацы культуры. Гледачы доўга не разыходзіліся — яны маглі набыць тут кнігі гасцей і атрымаць памятны аўтограф.

У свяце паэзіі прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ І. І. Антановіч, загадчык сектара мастацкай літаратуры ЦК КПБ С. І. Законнікаў, сакратар Мінскага абкома партыі К. К. Дзягілеў, першы намеснік старшыні аблвыканкома Р. І. Конан, старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю М. І. Дзялец, партыйныя і савецкія работнікі Стаўбцоўскага раёна.

НАШ КАР.



Таіса Бондар. Янка Брыль, Нэла Тулупава знаёмяцца з экспазіцыяй філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Смольні.



Аўтографы дае Яўген Міклашэўскі.

# СУСТРАКАЮЦЦА СЯБРЫ І МУЗЫ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2—3)

знаёмыя мелодыі песень. Ля ўваходу ў карцінную галерэю хлопцы і дзяўчаты ў беларускіх нацыянальных касцюмах выконваюць іскрысты танец, звонкія галасы выводзяць «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў»... Гэта артысты Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР *наладзілі канцэрт для прысутных* на вернісажы «Беларускія жывапіс, графіка і народныя мастацкія промыслы». Праз некалькі мінут вуліца ператварылася ў перапоўненую канцэртную залу, у якой нават на галёрцы не было свабодных месц — не толькі на тратуары, але на балконах дамоў і ў вокнах — зацікаўленыя гледачы і слухачы. *Разам з некалькімі сотнямі* гледачоў у далоні прыхлопвалі нават манашкі. Мясцовыя журналісты сцвярджаюць, што столькі людзей не збіраецца нават на папулярны міжнародны фальклорны спектакль «Вяселле ў Любляне», які праходзіць на гэтай жа ратушнай плошчы.

Адгучалі цымбалы і жалейкі, і *гледачы імправізаванага канцэрта* пад адкрытым небам сталі гледачамі мастацкай выстаўкі. Праз некалькі гадзін пасля яе адкрыцця дырэктар галерэі Бажэна ПЛЕУНІК прызналася:

— Столькі гасцей мы не чакалі. Сёння да нас прыйшлі не толькі спецыялісты, але і людзі, далёкія ад мастацтва, і гэта радуе. Прыемна адзначыць, што і ў тых, і ў другіх думка адна: жывапіс і графіка Беларусі вызначаюцца беражлівымі адносінамі да народных традыцый і актыўным пошукам сучасных выяўленчых сродкаў. Асабліва высокія ацэнкі — усіх без *выключэння твораў народных* промыслаў. Мы нямала былі здзіўлены, даведаўшыся, што гэта — не арыгінальныя творы, а серыйная прадукцыя мастацкіх прадпрыемстваў і арцелей.

А ў Доме імя Івана Цанкара поспехам карысталася выстаўка кніг выдавецтваў БССР.

14 кастрычніка паказам фільма «Ідзі і глядзі» пачаўся Тыдзень беларускага фільма. Майстры экрана нашай рэспублікі прывезлі славенскім гледачам 5 мастацкіх, 5 дакументальных і 2 мультыплікацыйныя фільмы.

## ВУЧЫМСЯ АДЗІН У АДНАГО

Калі была выканана большая частка праграмы Дзён культуры, мы звярнуліся да арганізатараў свята мастацтва. Што ім запомнілася? Што чакаюць ад будучых сустрэч? На гэтыя пытанні адказваюць:

Тонэ ПАРТЛІЧ, старшыня Саюза славенскіх пісьменнікаў:

— Мы можам многаму адзін у аднаго павучыцца. Гэту думку выказаў на сустрэчы за «круглым сталом» у Саюзе славенскіх пісьменнікаў і наш госць, паэт і перакладчык Ніл Гілевіч. Не магу не пагадзіцца з калегам. І для гэтага зусім неабавязкова, каб дакладна ўсё, што напісана вашымі пісьменнікамі, нам падабалася і было вартае пераймання. У кожнай літаратуры, калі яна стаіць на народных традыцыях, а менавіта такой мне ўяўляецца сучасная беларуская літаратура, абавязкова ёсць тое, што можа іншым паслужыць добрым прыкладам.

Нашы думкі супадалі па ўсіх праблемах, аб якіх заходзіла размова. Думаю, гэта не выпадкова. Мы разумелі сабратаў па пяру не толькі таму, што блізкія нашы славянскія мовы. Родніць нас многае іншае — нашы мэты і задачы, падабенства гісторыі народаў, ды і тое, што нашых гасцей мы добра ведаем або асабіста, або па іх творчасці. Думаю, што ў бібліятэках удзельнікаў гаворкі за «круглым сталом» знойдзецца месца і кнігам вершаў Отана Жупанчыча на беларускай і Янкі Купалы на славенскай мовах, пераклады якіх падрыхтавалі мы з Гілевічам. Гэтыя навінкі, падораныя на памяць аб сустрэчы ўдзельнікам дыспуту, — сцвярджаюць, што супрацоўніцтва наша цалкам рэальнае і дастаткова плённае.

Ігнацэ ШУНІЧ, дырэктар Люблянскага лялечнага тэатра:

— Заўсёды з павагай стаўлюся да крытыкі і прэсы — яны вырашаюць, ці добры той або іншы спектакль, фарміруюць грамадскую думку. І разам з тым абсалютна перакананы, што канчатковую ацэнку ставяць нашы гледачы — дзеці. А на спектаклях нашых беларускіх калег-лялечнікаў усе гэтыя дні — аншлаг, і я не бачыў ніводнага малога, які б застаўся раўнадушным. Вышэйшай, памойму, ацэнкі быць не можа... З нецярпеннем чакалі таварышаў па мастацтве і мы, бо такія кантакты — выдатная школа прафесійнага майстэрства. У мінчан, напрыклад, мы запазычылі іх арыгінальную тэхналогію вырабу марыянетак — падрыхтоўку эскізаў, раскрой і пашыў лялек. Гэта адразу заўважылі і адзначылі і гледачы, і крытыка... Планы ў нашых тэатраў вялікія. Сказаў «нашых», бо за гэтыя дні мы падрыхтавалі пагадненне аб працягу абменных гастроляў. Таму тым, хто не змог трапіць на спектаклі беларускага лялечнага, не трэба засмучацца — ён яшчэ прыедзе ў Славенію.

## СВЯТА НЕ КАНЧАЕЦЦА

«Сяброўства» і «прыятэльства» — гэтыя словы зразумелыя без перакладу беларусам і славенцам. Пасля першых жа канцэртаў Дзён культуры ў гледачоў і прэсы папулярным стала і слова «свята».

Святам дружбы і святам культуры былі амаль 40 канцэртаў, спектакляў, сустрэч творчых работнікаў, якія адбыліся ў гарадах рэспублікі. Але святы мінаюць хутка, і надышоў час пасланцам муз Беларусі развітвацца са Славеніяй — дзіўным па прыгажосці краем, яе невялікім, але гераічным, працавітым і таленавітым народам.

18 кастрычніка ў Любляне, у Доме імя Івана Цанкара, адбылося ўрачыстае закрыццё Дзён культуры БССР у Славеніі. На ім была дадзена высокая ацэнка гэтаму святу і выказана ўпэўненасць, што кантакты дзеячаў мастацтваў нашых рэспублік і надалей будуць такімі ж плённымі.

Але Дні культуры — гэта не толькі канцэрты, кветкі, апладысменты. Дэлегацыя Беларускай ССР і прадстаўнікі творчых саюзаў правялі нямала дзелавых сустрэч, у выніку якіх у Любляне падпісан пратакол аб пашырэнні супрацоўніцтва паміж нашымі рэспублікамі ў галіне культуры. Пасля падпісання гэтага дакумента памочнік дырэктара Інстытута СР Славеніі па міжнародным навуковым, тэхнічным, асветным і культурным супрацоўніцтве Таня ОРЭЛ-ШТУРМ коратка расказала аб яго змесце.

— Славенія яшчэ не падпісвала такіх сур'ёзных пагадненняў аб культурным абмене, як гэта. Дастаткова сказаць, што ў адпаведнасці з падпісаным сёння пратаколам будзе працягвацца супрацоўніцтва БДУ імя У. І. Леніна з універсітэтам імя Э. Кардэля, Белдзяржфілармоніяй і Домам імя Івана Цанкара, вашай кансерваторыяй і нашай музычнай акадэміяй, паміж мінскім і люблянскім лялечнымі тэатрамі, музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Люблянскім музеем народнай рэвалюцыі, купалаўскім тэатрам і іх калегамі з Марыбара, Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна і кніжнымі сховішчамі Любляны і Марыбара, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і Саюзам культурных арганізацый Славеніі. Не бяруся пералічваць усе выстаўкі і мастацкія калектывы, якімі ў адпаведнасці з пратаколам і *праграмай у бліжэйшыя* два гады маюць намер абмяняцца нашы рэспублікі. Намечаны ў ім і канкрэтныя мерапрыемствы, што дазваляюць расшырыць сувязі паміж беларускімі і славенскімі літаратарамі, мастакамі, кампазітарамі, кінематаграфістамі, выдавецтвамі.

— Рыхтуючы пратакол, — працягвае гутарку намеснік міністра культуры БССР У. П. СКАРАХОДАЎ, — мы ўжо ў апошні момант унеслі ў яго праект карэктывы — у план будучых гастрольных абменаў уключылі тыя калектывы, якія ў гэтыя Дні карысталіся асаблівай папулярнасцю ў славенцаў. Так, напрыклад, было з народным хорам. *Ён выступаў больш за* іншых і, трэба аддаць належнае, з найбольшым поспехам. Тое ж можна сказаць аб нашых спявачках Л. Колас і М. Гулегінай, іншых салістах опернага. Менавіта сённяшнія сімпатыі гледачоў і вызначылі, каму надалей трэба будзе прадстаўляць беларускае мастацтва ў Славеніі. У сваю чаргу пратаколам *намечаны гастролі ў Беларусі* такіх выдатных калектываў з братняй рэспублікі, як аркестр Славенскай філармоніі, камерны ансамбль «Тры-Лорэнз», славянскага духавога квінтэта, трыо «Тэрлей», вядучых выканаўцаў і дырыжораў...

Ад'язджаючы са Славеніі, удзельнікі Дзён не развіталіся з яе народам і мастацтвам, а гаварылі ім «Да пабачэння! Да новых сустрэч!»

Р. НОВІКАЎ,
спецкар. БЕЛТА для «ЛіМа»

**З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА**

**Мікола ЯНЧАНКА**



## *Полымем Кастрычніка гарэлі*

Дзеразы зялёная вада
Павяла ў засмужаныя далі.
Прыгадаў дзяцінства, прыгадаў,
Як тады Кастрычнік святкавалі.

Косы кучаравыя нясу
(У той час жылі мы небагата
І хадзілі ў лес па дзеразу,
Каб аздобіць дарагое свята).

З дзеразы гірлянды мы вілі,
Спавівалі клясы, вокны,
дзверы,
Ля партрэта Леніна цвілі
Кветкі самаробныя з паперы.

Чырвані паводкі не было,
Бо не мела лішняга Радзіма,
І на ўсё вялікае сяло
Палымнеў над школай сцяг
адзіны.

Россыпаў салютаў і ў кіно
Бачыць мы магчымасці не мелі,
Ды затое сэрцы, як адно,
Полымем Кастрычніка гарэлі.

Ад кітайскіх, абісінскіх ран,
Ад іспанскіх ран крывёй
сцякалі,
З воклічам: «Фашызм
но пасаран!»
Кулачкі маленькія ўзнімалі.

Як сягоння, у страі стаю,
Салютую радаснаму святу.
Між сяброў старэйшых пазнаю
Мужных Смалячкова і Марата.

...Дзеразы зялёная вада.
Баравіны кучаравяць хвалі.
Прыгадаў дзяцінства, прыгадаў,
Як калісь Кастрычнік святкавалі.

## *Выйшаў з хаты дзядуля*

Са шчырай павагай
Георгію Ільічу ГУСЬКОВУ

Сонца поўны завулак.
Лісце ў зыркай расе.
Выйшаў з хаты дзядуля
І на ганку прысеў.
Быццам хто іх паклікаў,
Тут жа клён-ветэран,
Стогадовая ліпа,
Стогадовы каштан.
Нахіліліся трое,
Вось і ў зборы сябры.
Можна ўспомніць былое,
Можна пагаварыць.
«А было», — шэпча ліпа.
Клён шуміць: «А было.
Ды з паводкай імклівай
У былое сплыло...»
«А было, — шум каштана
Усхапіўся і згас,—
Часу новага ранак
Палымнеў у сцягах»...
І стары ў пошум лісця
Слова ўставіў тады:
«Выступаў тут калісьці
Камісар малады.
Як шырока лілося
Зорнай мары святло,
Што сягоння збылося,
Што сягоння прыйшло...»
Сонца поўны завулак.
Дзень асенні наўздзіў.
Выйшаў з хаты дзядуля
І на ганку сядзіць.
Ні хмурыначкі суму.
Кулачок пад шчакой.
Ды высокая дума,
Ды глыбокі спакой.
У задуме вялікай
Сціхлі клён-ветэран,
Стогадовая ліпа,
Стогадовы каштан.

**КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ**

# НА ШАЛЯХ СУМЛЕННЯ

**Раман Івана Новікава «АЧЫШЧЭННЕ» крытык чытае разам з аўтарам**

У АПОШНІ час многія крытыкі, а нярэдка і самі пісьменнікі-дакументалісты гавораць аб пэўнай перавазе дакументальнай літаратуры над мастацкай. Пры гэтым спасылаюцца на тое, што сама інфармацыйная насычанасць жыцця вымагае вельмі ўважлівага стаўлення да факта, якому чытач асабліва давярае. Ды і рэчаіснасць прапануе такія складаныя, напружаныя, а часам і драматычныя калізіі і сітуацыі, якія не можа прадбачыць нават самая багатая аўтарская фантазія. Адным словам, сустракайся з патрэбным чалавекам, запісвай яго ўспаміны, і... твор народзіцца.

Не будзем ні пацвярджаць гэтую думку, ні аспрэчваць яе. Скажам толькі, што ўсё ж ад вядомага пісьменніка-дакументаліста неяк падсвядома чакаеш і «чыста» мастацкага твора. Справа тут, зноў жа, не ў перавазе аднаго жанру над другім. Прычына ў іншым: верачы ў талент пісьменніка, хочацца, каб ён выйшаў і на новыя творчыя абсягі.

Прынамсі, падставы так меркаваць дае творчасць Івана Новікава. Такія яго кнігі, як «Руіны страляюць ва ўпор», «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску», «Тварам да небяспекі», «Да світання блізка» — не проста дакументальная літаратура, а літаратура дакументальна-мастацкая. Умела абыходзячыся з матэрыялам фактычным, І. Новікаў «асвойвае» і матэрыял мастацкі. Уражваюць дынамічнасцю дыялогі герояў, пластычнай выразнасцю прываблiваюць пейзажы; мастацкі домысел мацуецца на псіхалагічнай дакладнасці.

Таму і чакалася, што з-пад пяра пісьменніка абавязкова народзіцца і кніга мастацкая. Спадзяванні спраўдзіліся. Сёлета ў першых трох нумарах «Полымя» змешчаны раман І. Новікава «Ачышчэнне», які ўжо знайшоў шырокі чытацкі рэзананс, чаго, на жаль, пакуль не скажаш аб водгуках крытыкі.

Сам факт з'яўлення рамана радасны: першы твор у новым для яго жанры ў І. Новікава атрымаўся. Навідавоку выразнасць, зладжанасць кампазіцыйнай пабудовы рамана і псіхалагічнай матывіроўкі ўчынкаў персанажаў. Па ўсім відаць, задума твора выкрышталізоўвалася ў працэсе работы над згаданымі ўжо дакументальна-мастацкімі кнігамі пра камуністычнае падполле ў Мінску і Віцебску.

Аднак пра гэта лепш паслухаць самога аўтара.

**— Шчыра кажучы, — прызнаецца Іван Рыгоравіч, — мне ўжо даўно хацелася ўзяцца за мастацкі твор. Калі працаваў над дакументальнай аповесцю «Руіны страляюць ва ўпор», у архіве знайшоў дакладныя запіскі партызанскіх разведчыкаў, баевікоў і сувязных Аляксандра Камінскага, Яўгена Кунцэвіча, Івана Шнігіра, Ядвігі Дубіцкай і іншых. Дакументы вельмі цікавыя, яны давалі добрую аснову для рамана ці аповесці. Я ўжо ўзяўся пісаць, але... апанавалі сумненні. Навошта мяняць прозвішчы сапраўдных герояў на выдуманыя? Гэтыя ж людзі жылі, змагаліся, паміралі, спадзеючыся, што народ не забудзе іх.**

**Мы, жывыя, не маем права забываць пра загінуўшых. Сумленне не дазваляла мне рабіць ананімнымі сваіх герояў. Так я і надалей мусіў заставацца дакументалістам, трымацца законаў дакументальнага жанру.**

**Між тым, не пра кожны факт, не пра кожнага героя можна напісаць так адкрыта, шчыра, як гэта магчыма ў мастацкім творы. Некаторыя людзі, пра якіх я хацеў напісаць, адмовіліся расказваць пра сябе, нават пярэчылі: не пішы! Той, каму давялося хоць крыху мець справу з дакументальным жанрам, добра ведае пра такія абмежаванні. Скажам, калі б Ніна Касач-Караневіч была жывая, хіба яна дазволіла б, каб я напісаў пра яе тое, што напісана ў рамане? А мне так хацелася расказаць пра людзей, якія змагаліся з фашыстамі, і больш поўна, і больш глыбока. Так, як яны таго заслужылі. Такім чынам, задуму рамана можна аднесці да шасцідзесятых гадоў, калі я пачынаў пісаць «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску».**

**Але час унёс свае папраўкі. Некаторыя канфлікты, вострыя калізіі, што ўзніклі ў вайну, з ёю не скончыліся. Яны мелі працяг і ў мірны час, таму што змяніўся час, але засталіся тыя ж самыя людзі.**

**Перада мной цяпер паўставала задача — напісаць твор не столькі пра вайну, колькі пра людзей, якія ў экстрэмальных умовах вайны і міру па-рознаму праяўлялі сябе. Я не мог, ды і не меў жадання абмяжоўвацца ваеннай тэмай, хоць і лічу яе вельмі важнай. Мне хацелася паставіць сваіх герояў у не менш вострыя, чым ім даводзілася перажываць у вайну, канфліктныя сітуацыі мірнага часу. Толькі так можна выразней высветліць маральна-этычныя прынцыпы людзей, іх, як цяпер гавораць, жыццёвыя пазіцыі.**

Вобраз галоўнай гераіні Ніны Ягораўны — таксама, думаецца, невыпадковы. (Разумею, у творчасці пісьменніка выпадковасцей наогул быць не можа, усё падпарадкоўваецца агульнай задуме твора, але пад словамі «выпадковасць» — «невыпадковасць» тут маецца на ўвазе свядомая арыентацыя аўтара на персанаж, выключны ў сваёй сутнасці).

**— Вывучаючы падполле Мінска, Віцебска, Магілёва, Гомеля і некаторых іншых гарадоў рэспублікі, — працягвае І. Новікаў, — я сустракаў шмат жанчын, якім вайна скалечыла асабісты лёс. Дзесяткі жанчын трапілі ў такія сітуацыі, праз якія прайшла Ніна Ягораўна. Яны перш за ўсё ахвяры вайны, якая нявечыла людзей не толькі фізічна, але і маральна.**

**Матэрыялу ў мяне назапасілася шмат. Я ведаю многа трагічных і гераічных лёсаў. Выбар у мяне быў вялікі. І я выбіраў — ствараў мастацкі вобраз...**

Неардынарнасць лёсу Ніны Ягораўны, у нейкай ступені выключнасць яго, патрабавалі ад аўтара надзвычай прадуманай кампазіцыйнай пабудовы твора. На пачатку рамана І. Новікаў свядома арыентуецца на дэтэктыўны жанр. І гэта не даніна літаратурнай модзе, а ўсвядомленая неабходнасць. Усё ў жыцці Ніны Ягораўны, здавалася б, усталявалася. Вайна паступова забываецца. Ёсць любімая праца, павага і аўтарытэт сярод калег. Ды і дома ўсё добра, гадуецца любімая ўнучка Волечка. Мінулае — страшнае, жудаснае — знаходзіцца недзе далёка за небасхіламі пражытага. Яно пакуль жыве толькі ў душы самой Ніны Ягораўны, іншым яно не падуладна. Але — нішто не забыта. Гэтая ісціна ўспрымаецца і як запознены ўдар лёсу, які рана ці позна, але павінен быў адбыцца.

Ветлівы выклік з Камітэта дзяржаўнай бяспекі — сустрэцца, пагаварыць — прыўзнімае заслону над забытым. Не, вайна для Ніны Ягораўны не скончылася.

Зноў слова аўтару рамана:

**— Прайшло больш як сорак гадоў пасля вайны. Вырасла адно пакаленне людзей, падымаецца другое. І гэта ў мяне на вачах. Прызнаюся, я з хваляваннем сачу за тым, што закладваем мы ў памяць гэтага пакалення, якое, на шчасце, ведае пра вайну і пасляваенны час толькі тое, што мы яму раскажам вусна, выявім у мастацтве. Якая ў яго будзе памяць пра тых, хто хадзіў у атаку, хто паміраў у засценках СД, хто накіроўваў падбіты самалёт на калону варожых танкаў?**

**Мне здаецца, што памяць у іх пра той час будзе зусім іншая, чым у нас, якія прайшлі вайну, яе пекла. Натуральна, слабейшая. Але моц яе будзе залежаць ад нас — наколькі эмацыянальна мы раскажам пра тое, што ведаем. Ад нас патрабуецца шчырасць і яшчэ раз шчырасць. І ўменне бачыць і паказваць людзей у тых складаных абставінах, у якія ставіла іх жыццё.**

**Мы абавязаны адлюстраваць усё такім, як было, не падганяючы характары і сітуацыі пад зададзеныя шаблоны.**

**Памяць патрэбна для таго, каб ведаць праўду і адстойваць яе. Хоць для Ніны Ягораўны яна цяжкая, пакутлівая, страшная, але мая гераіня ведае: калі людзі будуць знаць праўду, то даруюць ёй нават тое, што яна, магчыма, сама сабе не даруе. Ёй памяць патрэбна для ачышчэння душы.**

Раман, што ўжо бачна з яго назвы, — гэта перш за ўсё расказ пра ачышчэнне душы самой Ніны Ягораўны. Нялёгкае, балючае, але такое неабходнае, каб чалавек мог спакойна жыць далей, не адчуваючы віны. Не, не перад іншымі людзьмі, а віны перад Радзімай. У гэтым сцвярджэнні парадоксу няма. Не можа дараваць Ніне Ягораўне таго, што яна вымушана была жыць з немцам, яе былы муж Алесь Караневіч, сурова асуджае дачка. Закрануты іх асабістыя пачуцці, асабістыя ўзаемаадносіны. Радзіма даруе, таму, што, кажучы юрыдычнай мовай, адзнакі злачынства няма. Ніна Ягораўна лічылася агентам фашыстаў, але выконвала заданні партызан. На яе шчасце, засталіся людзі, якія пра гэта ведаюць. Інакш — паспрабуй даказаць, што, здрадзіўшы блізкаму чалавеку, не здрадзіла Радзіме.

У творы і ідзе высвятленне таго, хто ж на самой справе Ніна Ягораўна Касач. Слабахарактарная, бязвольная жанчына, якая, ратуючы ўласнае дзіця, пераступіла мяжу дазволенага і недазволенага? Ці патрыётка, якая ўнесла свой уклад ва ўсеагульную барацьбу з фашызмам?

Няпростыя пытанні ўзнімае І. Новікаў. Ставіць іх прынцыпова, публіцыстычна завострана. Сам-насам з уласным сумленнем і з часам застаецца яго гераіня. Яе роздум над пражытым і перажытым — пакутліва-балючы, але неабходны. Гэта крок да самаачышчэння. Пакуль што — да самаачышчэння.

«А ці вінавата яна? Хіба можна вінаваціць за тое, што прынесла вайна? Не было б яе, не было б усяго, што сталася...» — не як збавенне прыходзіць такая думка — як пошук адказу на балючыя пытанні.

Ніна Ягораўна — вобраз мастацкі. Але ўзнікае пытанне: ці не было ў працэсе працы над раманам і так, што аўтару хацелася крыху інакш падаць сваю гераіню? Мне, напрыклад, здаецца, што больш рашуча павінна была павесці сябе Ніна Ягораўна, пачуўшы суровае абвінавачванне дачкі...

**— Вобраз Ніны Ягораўны быў для мяне самы складаны. Колькі разоў з'яўлялася спакуса надзяліць яе другімі рысамі, паставіць у другія сітуацыі. Хто яна: ахвяра фашызму ці гераіня? Паказаць яе гераічныя справы, ці вывесці яе проста маральна няўстойлівай, слабай, бязвольнай? Былі ж у жыцці і такія...**

**Калі пісаў, здавалася, што сам вобраз дыктуе мне, як гераіня мусіць трымацца, што рабіць. Калі спакуса адольвала і я пачынаў адступаць ад такой дыктоўкі, адразу ж адчуваў ненатуральнасць, фальш. Мне бачылася, што жанчына такога характару павінна дзейнічаць толькі так, як атрымалася ў рамане. Словам, я нібыта ўвесь час прыслухоўваўся да самой Ніны Ягораўны.**

**Мне цяжка меркаваць, як успрымаецца чытачом канфлікт Ніны Ягораўны з дачкой Кацяй. Адно скажу: яна бачылася мне такой, як паказана. Дакараць дачку за яе бяздушнасць? Ці была падстава? Ніна ж ніколі не адкрывалася ёй са сваім мінулым. Берагла душэўны спакой, берагла ад таго бруду, у якім сама вымушана апынулася. Выхавала Кацю сумленным чалавекам. І калі дачка раптам дазналася, што было з маці, хіба яна магла астацца абыякавай? Гэта па-першае. А па-другое, як бы там ні было, але аберагаючы дачку ад усялякіх жыццёвых турбот, Ніна выхавала ў яе і эгаізм, і чэрствасць. Хоць і не падкрэслена, але я паказваю гэта.**

Лёс Ніны Ягораўны прасочваецца паралельна з лёсам Алеся Раманавіча Караневіча, яе колішняга мужа. У хвіліны роспачы, калі адчула, што яе мінулае вось-вось стане вядома іншым, ледзь не з пагардай думае пра яго: «Варушыць перажытае. Герояў шукаць будзе. Чысценькіх, як шкло. Ён такі: кампрамісаў не прымае. У яго — як у малога дзіцяці: адны людзі благія, а другія добрыя, свае і ворагі, нашы і вашы. Без адценняў. Так і крочыць па жыцці рафініраваны праведнік».

Аднак гэта хутчэй выдаткі эмоцый. На самой справе Алесь Караневіч — чалавек, у характары якога ўвасоблены і партыйная прынцыповасць, і грамадзянская смеласць, і сацыяльная актыўнасць. У яго таксама была свая вайна — пакручастыя франтавыя дарогі. У яго таксама ёсць свой рахунак фашызму. Ці не таму з такой апантанасцю далучаецца ён да работы камісіі па высвятленні вынікаў дзейнасці гарадскога камуністычнага падполля, якое, як меркавалася доўгі час, стварылі самі фашысты ў правакацыйных мэтах. Караневіч ведае — ніхто і нішто не павінны быць забыты. «Самым вялікім аўтарытэтам для яго была ісціна. Пакланяўся толькі ёй, чыстай, незаплямленай, святой праўдзе. Калі трэба будзе за яе пастаяць — не задумаецца. Толькі б знайсці тую ісціну. Шлях да яе адзін — вывучаць факты самому, колькі б на гэта ні патрабавалася часу і сілы. Пакуль сам не разбярэцца, не пераканаецца, друкаваць нічога не стане».

Вобраз Караневіча — таксама відавочная аўтарская ўдача. Ён у нейкай ступені аўтабіяграфічны, але гэта не значыць, што аўтар пісаў яго з сябе.

**— Я і не збіраўся ў вобразе Алеся Караневіча паказаць сябе. І характары ў нас не аднолькавыя, і сітуацыі, у якія ён трапляе, адрозніваюцца ад таго, што перажыў я. Хіба што сфера дзейнасці ў нас агульная. Я паставіў свайго героя ва ўмовы, якія добра ведаю, у якіх ён можа адчуваць сябе натуральна. А факты стараўся браць як мага далей ад таго, з чым меў справу сам. Алесь Караневіч, як яму і належыць, — мастацкі вобраз, за ім некалькі прататыпаў.**

Але разам з тым гэта і абагульнены вобраз журналіста, які бачыць свой галоўны прафесійны і маральны абавязак высветліць ісціну, вярнуць з набыцця імёны добрых людзей, а здраднікаў назваць здраднікамі. Праўда, звесці гаворку пра раман да двух вобразаў — Ніны Ягораўны і Караневіча, значыць, спрасціць сутнасць аўтарскай задумы. Ёсць у творы яшчэ адзін герой — абагульнены, маштабны — чалавечая

(Заканчэнне на стар. 6—7)

## КНІГАПІС




Л. ЯЎМЕНАЎ. Актуальныя праблемы контрпрапаганды. На рускай мове. Мінск, «Навука і тэхніка», 1985.

**У сучасным свеце, калі адбываецца вострая барацьба дзвюх ідэалогій — капіталістычнай і сацыялістычнай, важнае значэнне мае правільнае вядзенне контрпрапаганды, накіраванай на тое, каб рашуча даваць адпор усім, хто спрабуе абяліць так званае «свабоднае» буржуазнае грамадства, супрацьпаставіўшы яго краінам сацыялізму. Некаторыя напрамкі і прынцыпы яе разглядаюцца ў кнізе Л. Яўменава «Актуальныя праблемы контрпрапаганды», што пабачыла свет у серыі «Ідэалагічная барацьба ў сучасным свеце», якую выпускае выдавецтва «Навука і тэхніка».**

**Аўтар разглядае розныя аспекты згаданай праблемы, што ўжо відаць і з назваў раздзелаў — «Імперыялізм 80-ых гадоў: якая палітыка—такая ідэалогія», «Апалагетычныя міфы і змрочныя рэаліі манапалістычнага капіталізму», «Абсурды буржуазных фальсіфікацый сацыялізму».**

**У заключэнне гаворкі Л. Яўменаў прыходзіць да высновы, што на сённяшнім этапе ёсць два галоўныя ўзроўні вядзення сацыялістычнай контрпрапаганды. Першы звязаны з «выпрацоўкай глыбокіх ведаў аб асаблівасцях ідэалагічнай барацьбы з імперыялізмам нашага часу». Другі — выхаванне класавай непрымірымасці да капіталізму, «паглыбленне і развіццё марксісцка-ленінскай свядомасці і перакананасці членаў грамадства, навуковай веры ў сацыялістычны лад».**




А. ЮШЧАНКА. У памяці маёй. Нарысы, эцюды, успаміны, эсэ. На ўкраінскай мове. Кіеў, «Радянський письменник», 1986.

**Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі «Пачуццё сям'і адзінай» імя П. Тычыны, якая прысуджаецца на Украіне, А. Юшчанка ў сваёй новай кнізе «У памяці маёй» згадвае вядомых пісьменнікаў, з кім у розныя гады звялі яго шляхі-дарогі. Даўнія сувязі падтрымлівае А. Юшчанка і з беларускай зямлёй, вось чаму ў зборніку ёсць і матэрыялы, якія тычацца нашай літаратуры.**

**У артыкуле «Коласаў край» наш сябра піша пра народнага песняра Якуба Коласа, яго сувязь з украінскай зямлёй. «Старонкі мужнасці і веры» — штрыхі да творчага партрэта народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Воблік Аляксея Зарыцкага паўстае з нататак «Дарунак беларускага сябра». «Легендарныя сябры беларускія...» — уражанні ад сустрэч з Васілём Быкавым, Іванам Мележам, Рыгорам Няхаем.**

## ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# «ХІБА ГЭТА НЕ ПРЫЗНАННЕ?!»

**Геніяльны балгарскі паэт і бясстрашны рэвалюцыянер Хрыста Боцеў не толькі сваю творчасць, але і жыццё аддаў барацьбе за незалежнасць роднага краю. Сягоння Хрыста Боцеў—нацыянальны герой балгарскага народа. За высокія дасягненні ў галіне рэвалюцыйнай паэзіі і публіцыстыкі заснавана міжнародная прэмія яго імя. Сёлета міжнароднай Боцеўскай прэміяй адзначаны ўкраінец Дзмітро Паўлычка, уругваец Марыо Бенедэці, немец Гюнтэр Вальраф (ФРГ) і беларус Ніл Гілевіч.**

**«Я не ведаю, ці ёсць балгарын, які мог бы сказаць, калі ўпершыню пачуў імя Хрысты Боцева. Яго вобраз увайшоў у нашы сэрцы з вобразам маці, вобразам хлеба, вобразам неба. Боцеў—значыць самазабыццё. Боцеў—значыць балгарын. Боцеў—значыць паэт. Для малога і для старога, для прафесара і для пастуха ён Паэт»,—гаварыў Любамір Леўчаў. Новы лаўрэат Боцеўскай прэміі Ніл Гілевіч дадае: «І Рэвалюцыянер, бо яго творчасць і яго рэвалюцыйная дзейнасць неаддзельныя... Боцеў сёння—і найвышэйшы маральны аўтарытэт нацыі, яе непадкупнае сумленне і яе баявы сцяг. На Боцева раўняюцца, да Боцева звяртаюцца, пра Боцева думаюць і тады нават, калі яго імя не вымаўляецца —так глыбока ён у свядомасці, у самой крыві мільёнаў працоўных».**

**Трыццаць гадоў назад Ніл Гілевіч адкрыў для беларускага чытача мацярык балгарскай літаратуры. Менавіта ён падарыў беларусам «Вецер вые. Балкан стогне» Д. Чынтулава, «Хаджы Дзімітр» і «Развітанне» Х. Боцева, «Помніш ты, помніш ты ціхі наш двор...» і «Вярнуцца ў хату бацькаву здалёку» Д. Дэбелянава. Менавіта ён паказаў, як «галапіруюць» дакцілы Н. Фурнаджыева, як нястрымна кіпяць акіянічныя «стыхіі» Э. Баграны, як зрываюцца рытмы Г. Мілева, як уздыхаюць радкі Н. Лільева.**

**У творчай асобе Ніла Гілевіча шчасліва зліліся талент паэта і перакладчыка, сатырыка і драматурга. Яго пяру належыць каля двух дзесяткаў манаграфій, літаратурна-крытычныя артыкулы, а таксама даследаванні па гісторыі балгарскай літаратуры. Неаднойчы балгарскія літаратуразнаўцы спасылаюцца на работы Н. Гілевіча, лічацца з яго думкай па многіх пытаннях, якія датычаць літаратурнага працэсу ў Балгарыі.**

**Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, гаворачы пра гэтыя «беспрэцэдэнтныя» ў беларускім літаратурным жыцці сувязі з балгарскай літаратурай, так характарызуе дзейнасць Ніла Гілевіча — перакладчыка і балгарыста: «Нілам Гілевічам зроблена столькі, колькі, відаць, не зроблена ўсёй нашай нацыянальнай літаратурай за ўвесь час яе існавання» (В. Быкаў. Праўдай адзінай. Мінск, Мастацкая літаратура, 1984, с. 230).**

**Сёння па інтэнсіўнасці абароту паэтычных і празаічных перакладаў балгарская літаратура займае першае месца сярод замежных у Беларусі. Амаль паўтары тысячы вершаў і паэм 300 балгарскіх паэтаў ад Георгія Ракоўскага, Петкі Славейкава, Івана Вазава да самых маладых сучасных аўтараў, шэсць анталогій балгарскай паэзіі і прозы. За гэтымі лічбамі — самаахвярная праца Ніла Гілевіча і яго паслядоўнікаў у справе прапаганды і перакладу балгарскай літаратуры (такіх, як Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Алесь Разанаў, Анатоль Грачанікаў, Васіль Сахарчук — у галіне паэтычнага перакладу, Ванкарэм Нікіфаровіч і Уладзімір Аніскові — у галіне празаічнага).**

**А пачалося ўсё з Боцева, з яго геніяльнай балады «Хаджы Дзімітр», пра якую Леў Озераў піша, што калі б была анталогія сусветнай паэзіі, у якой кожны народ меў права толькі на адзін верш, то Балгарыя магла б «быць прадстаўлена вершам Хрысты Боцева «Хаджы Дзімітр».**

**На другім курсе універсітэта Ніл Гілевіч вывучаў, «хоць і зусім мала», балгарскую і, чытаючы на практычных занятках вершы і апавяданні балгарскіх класікаў, «паспеў адчуць і прыгажосць мовы, і веліч створаных на гэтай мове твораў». Асабліва моцнае ўражанне зрабіла на яго балада Хрысты Боцева «Хаджы Дзімітр», да якой ён падабраў нейкую мужную мелодыю і спяваў па-балгарску.**

— Думаю, што ў той час і адбылося самае галоўнае, што вызначыла мой выбар, што менавіта тады запала ў душу тое зярнятка, якому суджана было прарасці і ператварыцца ў справу ўсяго майго далейшага жыцця. Ва ўсякім разе, я ўжо стаў нераўнадушны да Балгарыі і балгарскай літаратуры. Успамінаю, напрыклад, што яшчэ гады за два як пачаў перакладаць і яшчэ зусім не думаючы, што калі-небудзь буду перакладаць, я купіў у букіністаў «Выбранае» Хрысты Смірненскага на балгарскай. Навошта? Ды таму, што гэта ўжо мяне цікавіла, у душы ўжо нешта жыло. Але, калі падумаць, ці ж гэта дзіўна, што ва ўсім «вінаваты» Боцеў, што тое зярнятка ў душы закінуў ён?

Не проста адказаць, чаму я выбраў менавіта балгарскую літаратуру, хоць і не веру, што справу вырашыла выпадковасць. Цяпер, шчыра кажучы, нават не магу ўявіць, што гэта магло быць інакш. Калі я ўжо пачаў перакладаць з балгарскай і ўпершыню адчуў задавальненне, тады наступнае захапленне можна растлумачыць менавіта гэтым задавальненнем, радасцю, якая складалася з радасці адкрыцця для сябе цудоўнай балгарскай паэзіі і прозы, радасці ўсведамлення, што адкрываю яе і для сваіх суайчыннікаў — для беларускага чытача, і звычайнай радасці творчай працы.

**— Ніл Сямёнавіч, скажыце, калі ласка, хто з балгарскіх паэтаў ці празаікаў першы загаварыў з вашай дапамогай на беларускай мове!**

— Гэта быў празаік. Але які празаік! Якой паэтычнай душы і якой паэтычнай мовы празаік! Праўда, гэтыя якасці і для мяне, і для балгарскага чытача адкрыліся крыху пазней. Тады ж, летам 1956 года, перада мною было невялікае і зусім звычайнае гумарыстычнае апавяданне, зусім не шэдэўр, хоць адчуванне жывой народнай мовы і там ужо было прыкметна. Аўтар гэтага надрукаванага ў «Стършеле» апавядання быў Нікалай Хайтаў. Прыемна ўсведамляць, што і пачынаючаму перакладчыку густ не здрадзіў.

**— А як шырока прадстаўлена балгарская паэзія ў Беларусі і якія яе ідэйна-мастацкія вартасці найбольш прывабліваюць беларускага чытача!**

— Колькасныя паказчыкі, зразумела, самі па сабе ў літаратуры і мастацтве не з'яўляюцца вызначальнымі і галоўнымі, тым не менш хочацца пачаць з лічбаў. З 1917 па 1956, гэта значыць, амаль за сорак гадоў было перакладзена на беларускую мову і апублікавана ў перыядычным друку ўсяго толькі восем вершаў шасці балгарскіх аўтараў, а менавіта: адзін верш Х. Боцева, адзін Смірненскага, адзін Л. Стаянава, два Кюляўкава, два Ланкава і адзін П. Мацеева. Вось усё, што мог прачытаць беларускі чытач з балгарскай паэзіі на роднай мове да 1956 года. Шчыра кажучы, сёння проста не верыцца, што так было. Цяжка ўявіць, што наш прагны да паэзіі чытач па сутнасці зусім не быў знаёмы з такой вялікай паэтычнай дзяржавай у перакладах на родную мову. Сягоння амаль палова прадстаўленых у Беларусі вершаў і паэм апублікаваны двойчы, вельмі многія — тройчы, многія — па чатыры разы, а некаторыя маюць па пяць і больш публікацый у розных анталогіях, альманахах, часопісах і рэспубліканскіх газетах. Гэта некалькі ўдакладняе ўяўленне аб ступені вядомасці і папулярнасці балгарскай паэзіі ў Беларусі.

Гаворачы аб маштабах знаёмства беларускіх чытачоў з балгарскай паэзіяй, варта прыняць пад увагу і тое, што на яе прапаганду і папулярызацыю працуюць і наша літаратуразнаўства, і крытыка, і радыё, і тэлебачанне, гэтаму служаць літаратурныя вечары і сустрэчы, дзе вельмі часта гучаць балгарскія вершы ў перакладах на беларускую мову.

Што прываблівае ў балгарскай паэзіі беларускага чытача? Чым уваходзіць яна ў духоўны свет беларуса? Чым хвалюе яго, якімі матывамі, ідэямі, пачуццямі яму цікавая? На маю думку, гэта, па-першае, яе сапраўдная народнасць і дэмакратычнасць. Балгарская паэзія — гэта паэзія, якая ніколі не служыла, гаворачы словамі У. І. Леніна, «сумуючым і пакутуючым ад атлусцення «верхнім дзесяці тысячам», якая ніколі не была гурманскай і снабісцкай, а заўсёды адрасавалася простаму народу, чалавеку працы, ад чыйго імя і гаварыла. Па-другое, яе высокі грамадзянскі тэмперамент. Яна заўсёды была паэзіяй грамадзянскага гучання, паэзіяй барацьбы за перамогу новага свету, за сцвярджэнне самых высакародных і прыгожых ідэалаў чалавецтва; яна заўсёды была паэзіяй глыбока сацыяльнай. Была — і ёсць, такая яна і сёння. Сучасныя майстры балгарскага паэтычнага слова — дастойныя прадаўжальнікі традыцый Боцева і Вазава, Яварава і Дэбелянава, Смірненскага і Вапцарава. Гэтымі якасцямі яна, канечне ж, вельмі блізкая нам, беларусам, блізкая і прывабная. Больш таго — менавіта такая яна сёння патрэбна нам. Думаю, што не будзе перабольшаннем сказаць, што сучасная балгарская паэзія ў Бе-

# НА ШАЛЯХ СУМЛЕННЯ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)

Памяць. Гэта, разумееш тым больш выразна, чым больш заглыбляешся ў раман. І тады бачыш, што зусім не эпізадычныя персанажы — колішняя падпольшчыца Раіса Кірэеўна Самуленкава і былы сакратар падпольнага абкома партыі, камандзір партызанскага злучэння Бараноўскі.

Пра сутнасць гэтых і іншых, на іх падобных, людзей правільна сказаў адзін з падпольшчыкаў — Шагун: «Цяпер некаторыя дзеляць паміж сабой славу, ды ніяк не падзеляць. У вайну апошнім кавалкам хлеба дзяліліся, а цяпер забываюць пра тое, стараюцца як мага прыгажэй сваё імя ў гісторыю занесці...»

Не абыходзіць І. Новікаў сваёй увагай і тых, хто ў суровыя гады сумленна змагаўся з ворагам, а потым, у нашы дні, не змог утрымацца на ранейшай маральнай вышыні. У рамане даследуюцца прычыны духоўнага перараджэння тых, хто колісь быў смелым і рашучым, а сёння больш дбае аб эдпаведных узнагародах, пасадах.

Разважаючы пра лёс Бараноўскага, Караневіч, не без падстаў прыходзіць да думкі: «Ці адзін ён вінаваты ў перараджэнні? Пэўна, не, яшчэ больш вінаватыя падхалімы. Якое ж гэта паганае племя — падхалімы. Варта толькі падняцца якому начальніку на ўплывовую прыступку, як закружацца мухамі вакол такой фігуры, гудуць на вуха: які ён мудры, які важны, які таленавіты, як не падобны ні на кога! Ды так старанна зумкаюць, што ён пачынае верыць у сваю геніяльнасць, у сваю богападобнасць. І першыя ж пачынаюць пакідаць свайго бажка, як толькі ён захістаецца на пасадзе... Хворы на славалюбства абавязкова трапляе ў павуціннe падхалімаў. Цягне іх за сабой, апіраецца на іх, ужо не можа жыць без іх, без напамінкаў, што ён — вялікі талент, выключны герой, пра якога трэба песні складаць. Ці не адсюль і пыха Бараноўскага?»

Вобразы Самуленкавай, Бараноўскага, па ўсім відаць, абагульненыя. Імкнуцца шукаць прататыпаў у дадзеным выпадку — значыць некага пакрыўдзіць. Хацелася б глянуць на гэтае пытанне крыху ў іншым аспекце. Час ідзе, старэюць ветэраны, хто ўжо даўно на заслужанай пенсіі, а хто і вымушаны пайсці, бо па-новаму працаваць не ў стане. Гэта таксама драма. У нечым, пачалавечы, такіх людзей можна зразумець?

**— Так, Самуленкава, Бараноўскі, як і іншыя героі рамана,— вобразы выдуманыя. За кожным з іх не адзін прататып, якіх я назіраў у жыцці. І я з вамі згодзен: зразумець іх можна. Але імі кіруюць эгаізм, славалюбства, чэрствасць, пагарда да другіх людзей. Такія людзі нанеслі і наносяць грамадству нямала шкоды. А хіба няма такіх сёння? Хіба не сустрэнеш цяпер такіх чалавечкаў, якія імкнуцца на хрыбціне сябра ўзвысіцца, дарвацца да ўлады, каб камандаваць і карыстацца дабротамі? Згодзен, зразумець іх можна, і я стараюся зразумець, але не для таго, каб апраўдаць ці пашкада-**

ларусі — як паэзія яскрава выяўленага сацыяльнага зместу, па-грамадзянску актыўная і папартыйнаму баявая — адчувальна дапаўняе нашу беларускую сённяшнюю паэзію і пэўным чынам падтрымлівае яе грамадзянскае самаадчуванне. Я маю на ўвазе пераклады на беларускую з Д. Мятодзіева і Х. Радзеўскага, з Г. Джагарава і Л. Леўчава, з М. Ісаева і Л. Стэфанавай і з многіх іншых. У нас, напрыклад, сёння няма паэта, у творчасці якога партыйна-палітычная тэма займала б такое месца, гучала б так маштабна і перакануча, як у Д. Мятодзіева. Няма ў нас і такога глыбокага самабытнага майстра паэтычнай сатыры, як Марка Ганчаў, — зрэшты, мне невядома падобная з'ява і ў сучаснай рускай паэзіі, і ва ўкраінскай. Духоўнаму свету беларускага чытача вельмі імпануе мудрая, чалавечная, добрая паэзія Андрэя Германава і Весяліна Ханчава, Паўла Мацева і Аляксандра Герава, палымяная патрыятычная лірыка Эўціма Эўцімава і Анастаса Стаянава, ярка маляўнічыя, густа замешаныя на водары роднай зямлі вершы Івана Давыдкава, чысціня тону, пяшчотнасць і песеннасць паэтычных радкоў Найдзена Вылчава. Як і многія іншыя індывідуальныя асаблівасці «добрых і розных» сучасных балгарскіх паэтаў.

**— А што, на ваш погляд, самае характэрнае ў паэтычнай сітуацыі Балгарыя — Беларусь!**

— Асобна хачу вылучыць два моманты, якія дадаткова характарызуюць паэтычную сітуацыю Балгарыя — Беларусь. Першае — гэта вялікая цікавасць беларускага чытача да сучаснай балгарскай вершаванай сатыры. Тлумачыцца гэта, пэўна, адным — паспяховым развіццём сатырычных жанраў у балгарскай паэзіі, наяўнасцю моцных сатырычных талентаў, што зусім натуральна для народа, які здаўна славіўся сваім моцным маральным здароўем, жывым і цвярозым розумам, развітым прыродным пачуццём гумару. Другое — гэта шырокае знаёмства маленькіх беларускіх чытачоў з балгарскай паэзіяй для дзяцей. Васемнаццаць гадоў назад у нас выйшла анталогія балгарскай дзіцячай паэзіі «Чарадзейны ліхтарык» — дарэчы, першая ў Савецкім Саюзе. Некаторыя вершы з гэтай кнігі сталі, можна сказаць, хрэстаматыйна папулярныя. Тлумачыцца гэта тым, што ў Балгарыі, дзе заўсёды існаваў і існуе культ дзіцяці, вельмі моцная народная педагогіка, таму і паэтычная творчасць для дзяцей развіваецца паспяхова. Балгарскім маленькім чытачам ёсць чым падзяліцца са сваімі сябрамі з іншых краін свету!..

**— Скажыце, калі ласка, што-небудзь пра асаблівасці перакладу з балгарскай. Мне даводзілася часта параўноўваць беларускія і рускія пераклады аднаго і таго ж твора таго ці іншага балгарскага аўтара, і я не раз задумвалася: чаму часцей за ўсё беларускі пераклад бліжэй да арыгінала! Магчыма, карэнні гэтай з'явы трэба шукаць у накірунку асаблівасцей слоўнікавых, гутарковых, моўных і г. д. абедзвюх моў! Ці сустракаюцца якія-небудзь цяжкасці, звязаныя з аналітычным ладам балгарскай мовы!**

— Асаблівасці перакладу, калі мець на ўвазе сам творчы працэс, залежаць і ад мовы, з якой перакладаеш, і ад мовы, на якую перакладаеш. Думаю, напрыклад, што з балгарскай на рускую, у сілу пэўных моўных асаблівасцей, перакладаць крыху лягчэй, чым на беларускую — мову, для якой амаль зусім чужыя царкоўнаслявянізмы, старажытнакніжныя звароты, выказванні, дзеепрыметнікі на ащ, ящ і многае-многае іншае, што вельмі зближае балгарскую літаратурную мову і рускую. Што датычыць аналітычнага ладу балгарскай мовы, то часам гэта, вядома, стварае дадатковыя цяжкасці пры перакладзе верша, але не настолькі ўскладняе справу, як можа падацца. Гэтыя цяжкасці заўсёды пераадольныя.

**— Ніл Сямёнавіч, пры ўсёй службовай, грамадскай, педагагічнай і творчай занятасці вы заўсёды знаходзіце час для работы з маладымі паэтамі і перакладчыкамі. Мне здаецца, што сёння можна гаварыць пра перакладчыцкую школу Гілевіча ў беларускай літаратуры.**

— Я стаўлюся асцярожна да такіх дэфініцый. Можна гаварыць пра савецкую школу перакладу, перакладу рэалістычнага, вернага па духу, па сэнсу. А гаварыць пра школу асобнага перакладчыка? Ці апраўдана?

**— Я мела на ўвазе тое, што вы выхоўваеце паслядоўнікаў, што з вашай дапамогай многія паэты прыходзяць да перакладаў з балгарскай і іншых славянскіх літаратур.**

— Я імкнуся зацікавіць справай мастацкага перакладу са славянскіх моў як мага больш людзей, асабліва маладых. Памагаю парадамі, падручнікамі, кнігамі, слоўнікамі. На мой погляд, важная не толькі арганізацыйная падтрымка, але і маральная.

Прапагандуючы ідэі мастацкага перакладу, я вельмі многа ахвярую, не — для балгарскай літаратуры гэтае слова не падыходзіць, — аддаю сіл і часу справе перакладу. Мне здаецца, што я праз балгарскую літаратуру спасціг незвычайны лёс народа, які амаль сем стагоддзяў знаходзіўся ў няволі, але захаваў сваю нацыянальную самабытнасць, свой дух, найбольш яркім выяўленнем якога з'яўляецца Х. Боцеў. Тое, што я для сябе спасціг у балгарскай паэзіі, я імкнуўся ўсімі даступнымі сродкамі: перакладам, артыкуламі, публіцыстыкай — перадаць нашаму чытачу, расказаць яму пра лёс братняга народа, суадносячы яго лёс з лёсам народа свайго.

Магчыма, самае важнае — тое, што мне ўдалося зрабіць балгарскую паэзію сваёй у Беларусі. Галоўная мэта, якую я стаўлю перад сабой, — парадніць нашы народы, каб яны лепш ведалі адзін аднаго.

**— Ніл Сямёнавіч, скажыце, калі ласка, некалькі слоў пра вашы планы на будучыню ў галіне балгарскіх перакладаў!**

— Калі дазволіць мне мой час, то я паспрабую зрабіць Боцева так, як я разумею яго сёння. Боцева я перакладаў і раней, публікаваў у часопісах, асобныя рэчы — у анталогіі балгарскага гумару і сатыры. Але да Боцева я рос, уздымаўся трыццаць гадоў. Сам сабе некалі сказаў: «Да Боцева масці дарогу!» Мне здаецца, што сягоння ў душы я ўжо падрыхтаваны, каб працаваць над перакладамі з Х. Боцева. Хацелася б данесці да беларускага чытача тое, што значыць паэзія Х. Боцева для балгараў. І не толькі Х. Боцева, але і І. Вазава. А яшчэ мару пра Дз. Дэбелянава.

Трыццаць гадоў аддадзены высакароднай перакладчыцкай дзейнасці. І ўсе гэтыя гады, кожны яго новы пераклад рабіўся падзеяй у літаратурным жыцці Беларусі.

**Пранікнуцца сэрцам**
**к другому народу**
**І нацыі сціплай — хіба гэта**
**не прызнанне!**

**Найноўшыя песні над краем**
**крыляюць.**
**Але развінуўшы пісьмены**
**стагоддзяў**
**Гляджу, як ласкава, бы й**
**раньш, адчыняюць**
**Вароты братэрства Кірыл**
**і Мяфодзій.**

**Гэтыя радкі напісала Яўгенія Янішчыц (верш «Чытаючы балгарскую паэзію ў перакладах Ніла Гілевіча»).**

**«Перакладчыцкі талент Ніла Гілевіча сапраўды унікальны, — піша Васіль Быкаў, — і цяпер яшчэ цяжка сказаць, перад кім гэтай сваёй дзейнасцю ён мае большыя заслугі — перад Беларуссю ці перад Балгарыяй. Магчыма, гэта не самае галоўнае, у абодвух выпадках усе мы ў выйгрышы».**

**Сёння ў «выйгрышы» і Балгарыя, і Беларусь. Ніл Гілевіч нястомнай працай на агульнай ніве балгарскай і беларускай літаратур дапамог шырока адчыніць «вароты братэрства».**

**Кавалер ордэна «Кірылы і Мяфодзія» І ступені, пастаянны і паўнамоцны пасланец Балгарыі на беларускай зямлі, Ніл Гілевіч — лаўрэат міжнароднай Боцеўскай прэміі — хіба гэта не прызнанне!**

Інтэрв'ю ўзяла
Роза СТАНКЕВІЧ

**ваць. Іх трэба выкрываць і выкарчоўваць з грамадскага жыцця.**

Відавочна, што вопыт Новікава-дакументаліста шмат у чым дапамог Новікаву-празаіку. І ў першую чаргу ў тым, што раман успрымаецца як новае слова пра барацьбу савецкіх падпольшчыкаў у тыле ворага. Не адмаўляе значнасці гэтага вопыту і сам аўтар.

**— Любы твор, незалежна, дакументальны ці мастацкі, патрабуе ад аўтара дасканалага ведання матэрыялу. Канечне, пра ўсё, што пісаў, я дасканала ведаю, шмат што сам бачыў, сам перажыў. Задача стаяла іншая: выбраць з таго, што назапашана за жыццё, найбольш важнае для маёй задумы і пабудаваць сюжэт, стварыць вобразы, адпаведныя ідэі рамана. А эпізодаў у маёй памяці столькі, што іх хопіць не на адну кнігу.**

— Галоўныя калізіі рамана звязаны з вайной, з памяццю аб ёй. Але, скажам, вобраз Караневіча раскрываецца і ў паказе яго пасляваеннай, журналісцкай дзейнасці?

**— Я ўжо гаварыў, што «Ачышчэнне» — гэта не ваенны раман, а твор на маральна-этычную тэму. Журналісцкая дзейнасць Алеся Караневіча дазваляе мне паўней раскрыць яго вобраз. Ды і не толькі яго. Тая ж кладаўшчыца, якая шукае справядлівасці, а сама яе не прытрымліваецца, тая ж старая, што скардзіцца на дзяцей, а сама кампраметуе іх, Вальцоў, які бескарысліва прысвячае сваю тэхнічную творчасць грамадству... Кожнаму герою я хацеў даць такое асвятленне, каб відаць было, што ён за чалавек, якіх прынцыпаў трымаецца, як ставіцца да жыцця, да людзей, да грамадства. Не ведаю, ці ўдалося гэта мне, але задума была такая.**

— Хацелася б пачуць вашу думку аб тым, якія асноўныя задачы стаяць перад савецкай «ваеннай прозай» на сучасным этапе?

**— Ваенная проза, — гаворыць Іван Рыгоравіч, — нарадзілася разам з вайной і з таго часу развіваецца, абагачаецца, паглыбляецца. Ваеннае пакаленне пісьменнікаў адыходзіць, саступае месца пасляваеннаму, якое не ведае, што такое фронт і тыл. Усё часцей адчуваецца (хоць бы і ў веданні дэталей), што пішуць тыя, хто не чуў стрэлаў, не ляжаў пад выбухамі бомб і снарадаў, не поўзаў па-пластунску на перадавой.**

**Могуць запярэчыць: Леў Талстой таксама не ўдзельнічаў у Айчыннай вайне, а напісаў «Вайну і мір». Правільна, затое ён удзельнічаў у Севастопальскай бітве, сам ляжаў пад абстрэлам, хадзіў пад кулямі і добра спазнаў, што гэта такое. Таму і змог так дакладна, з выключнай сілай перадаць перажыванні чалавека, які глядзіць смерці ў вочы.**

**Мне давялося чытаць «Вайну і мір» яшчэ ў інстытуце перад вайной і перачытваць у акопах Сталінграда. Якое living розна was** 

Гэтай праўдай і напоўнены раман І. Новікава. Кожны з яго герояў, застаўшыся сам-насам з памяццю, узважвае перажытае на шалях сумлення і думае, як жыць далей. Гэта і вылучае раман І. Новікава сярод апошніх твораў нашай літаратуры аб мінулай вайне.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

## ПАДЗЕІ І ДАТЫ

Неласкавым, пахмурным быў той дзень, калі ўрэшце выбраўся я на радзіму паэта-першапраходца, аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры. Церусіў дождж. Ні разу не выбліснулі з-за свінцовых хмараў сонечныя праменні. Так хацелася ўбачыць край паэта ў лагодным святле, а яго не было. Ды радавала адно: угледжу яго мясціны, прайдуся яго сцежкамі, якія назіраў з акна электрычкі.

І вось школа ў Рудзенску. Не саромеўся»,— сказала Ганна Іванаўна пра паэта. І дадала: «Адкрыты, любіў пагаварыць, хацеў кожнага паняць».

Ганна Іванаўна расказвала пра братоў Міхася Чарота: Паўла — аднаго з самых пісьменных рудзенцаў — і Аляксандра, які таксама быў адным з нямногіх адукаваных людзей у Рудзенску. У яе памяці захавалася абліčча паэтавай маці, жартаўніцы, якая хінулася да людзей і да якой хінуліся людзі.

# МАЕ ПЕСНІ — ПЕСНІ БУРЫ...



Міхась ЧАРОТ. 1925 год.

тая, дзе ён вучыўся,— новая, пабудаваная ў новы час, для дзяцей працоўных працоўнымі рукамі. Ён жа вучыўся ў Цітвянскай царкоўна-прыходскай школцы. Ці не ў адной з тых, пра якую некалі пісаў Якуб Колас: «Мне здаецца, што самы хітры на выдумкі штукар не прыдумаў бы болей злоснага насміхання над народнай асветай, як пастроіць гэтакую школу... Наша школа — самая нудная будова ва ўсім сяле».

У Рудзенскай сярэдняй школе ёсць усе ўмовы для плённых заняткаў. Ёсць і свой школьны краязнаўчы музей. На жаль, скупыя ў ім звесткі пра песняра-бунтара: двухтомнічак твораў, пералік дат жыцця. І ўсё. І ўся памяць пра славутага земляка, пра арганізатара літаратурнага руху маладых на Беларусі ў 20-я гады, прызнанага лідэра «Маладняка». Не ў крыўду рудзенцам, але ёсць школы, дзе памяць пра пісьменнікаў-землякоў шануецца больш свята і шчыра.

Выступіў перад настаўнікамі і вучнямі. Наведаў стрыечных сясцёр паэта Алену Іванаўну, Ганну Іванаўну і яго пляменніцу Ніну Сямёнаўну Давідоўскую. Выразней акрэслілася чалавечае абліčча песняра пасля гаворкі з родзічамі. Лілася жывая споведзь з вуснаў Алены Іванаўны, «Гэлькі», як яе, старэйшую ў сям'і дзядзькі Івана, пяшчотна называў няўрымслівы завадатар вясковых вечарынак і святаў Міхась Чарот. Расказала яна пра тое, як на каляды вясковыя хлопцы хадзілі па хатах з самаробным канём, пра першы ў жыцці палёт Міхася ў Мінск — у выбаўленым з бяды ім і яго аднавяскоўцамі самалёце, у «чырванакрылым вешчуне» новага. Ці не гэты эпізод жыцця стаў асновай напісання агульнавядомай паэмы? «Быў харошы, дружны»,— дае ацэнку свайму старэйшаму брату стрыечная сястра.

Новыя рысы да абліčча песняра дадае і Ганна Іванаўна, якая жыве якраз насупраць таго месца, дзе стаяла хата паэтавага бацькі Сымона Кудзелькі. Не захавалася тая хата, не захавалася ігруша-дзічка, што памятала паэта, няма любімай ім ліпы, няма і высокага ядлоўца, пасаджанага пад акном. «І вучыўся, і лапцей не

Многа светлага, нечакана радаснага, нягледзячы на пахмурнае надвор'е, чакала мяне ў хаце Ніны Сямёнаўны Давідоўскай. І перш за ўсё — яе шчыры, ціхі і разам з тым эмацыянальны расказ пра паэтавых бацькоў. Пра тое, што бабулька Чарота была кармілелькай («мамкай») панскіх дзяцей, што яго дзед быў таксама панскім дваровым чалавекам, прыгонным, майстрам ткацкай справы, а таму і прозвішча займеў — Кудзелька, што сям'я Кудзелькаў «была вельмі культурнай», што дзякуючы ёй у многім і Рудзенск «лічыўся культурнай вёскай». З цікавасцю слухаў я і пра сястру Чарота Марыю, маці расказчыцы, якая ў 20-ыя гады, як і ўся Чаротава сям'я, прымала ўдзел у пастаноўцы п'ес на бытавую і рэвалюцыйную тэматыку.

Паступова мне адкрываўся сапраўдны воблік Чарота—паэта, празаіка, драматурга, народнага інтэлігента, які быў у цэнтры завірушнага, яркага, насычанага знамянальнымі падзеямі жыцця. З глыбінь памяці ўсплывалі яго радкі — мужныя, страсныя, дынамічныя:

**Мае песні — песні буры,**
**Гоман лесу ў непагоду,**
**Страшны посвіст злой**
**віхуры,**
**Смелы кліч майго народу.**

Пачутае навяло на думку пра яскравае выяўленне асобы аўтара ў яго творчасці, пра дакументальны пачатак у ёй, што супярэчыць абстрактнасці, пра якую не адзін раз мы пісалі, якую сцвярджалі ледзь не адзінай дамінантай Чаротавага стылю. Сутнасць яго творчасці ў спалучальнасці ў ёй разнародных стылявых элементаў. Гэтая спалучальнасць была выяўленнем тэндэнцый часу. М. Чарот быў не прыгладжаны, «не прычасаны», як і эпоха, у якую старое ламалася, а новае нараджалася не так хутка, як хацелася б.

Сёмага лістапада, уздымаючы чырвоныя сцягі ў гонар Вялікага Кастрычніка, мы падымем іх адначасова і ў гонар паэта-барацьбіта за «прыгожа-светлую даль», за камуністычную яву на планеце Зямля. У гэты дзень яму споўнілася б 90 гадоў.

Мікола МІШЧАНЧУК

**УПЕРШЫНЮ ў «ЛІМе»**

### Вольга ГУРСКАЯ



Вольга Гурская нарадзілася ў 1955 годзе ў пасёлку Альхоўка Астравецкага раёна, што на Гродзеншчыне. Пасля заканчэння ў 1977 годзе Мінскага інстытута культуры працуе ў бібліятэцы Беларускага політэхнічнага інстытута. Друкавалася ў калектыўным зборніку «Нашчадкі», «Дні паэзіі», часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь» і іншых выданнях.

●

Перамен чаканыя вятры...
На вачах
        краіна маладзее.
Праўда з'езда —
нашая надзея,
абнаўлення веснавы парыў.

І змагацца з хібамі і злом
мы цяпер намер рашучы маем.
Ачышчаем
нашае жытло
ад таго,
што жыць нам замінае.
Не шукаць «уважлівых прычын»,
не маўчаць,
як хтосьці іх шукае.
Не ўратуе:
        «Я тут ні пры чым»,
бо цяпер не будзе хаты з краю.
Хоць пераканаліся наноў:
не здаецца дрэннае без бою,
будзе менш хвальбы
                і гучных слоў,
будзе болей спраў у нас з табою.

●

Каб часам «ікс»
наш не зрабіўся час,
хай боль трывогі апякае скроні.
Павінен кожны з нас трымаць адказ
за ўсё,
    што робім на зямлі сягоння.

Боль кожнага —
складаныя твае,
агульначалавечае сумленне...
На свеце толькі праўда існуе,
і ніякіх не існуе
                адценняў.
А некаму ўсё адмаўляць лягчэй,
чым зразумець:
планета —
не забаўка.
...Час немагчымых хуткасцей яшчэ
дае нам на пагрэшнасці папраўку

●

Спяшайся
у бядзе руку падаць —
збалелая душа спагады просіць.
Жыве ў табе патрэба спачуваць,
дык ведай,
што жыццё тваё збылося.
«Сваіх турбот на плечы ціснe ноша,
а тут яшчэ чужыя,
                як на здзек...»
Ты сёння
чалавеку дапаможаш,
цябе
    ўратуе заўтра чалавек.
Хай боль чужы, як свой, цябе пячэ.
Ад раўнадушша гэты боль —
                        замова.
Ты ад сябе самога не ўцячэш,
калі камусьці ў цеплыні адмовіш.
Расчараванняў,
            так,
                не абмінеш.
Але ці варта гэтага баяцца?
Ты спачуванне выхавай найперш
у дзецях.
        А астатняе — дадасца.

●

Хоць сонца
з раніцы няма,
усё навокал быццам ззяе.
А гэта —
прыгажосць сама,

**П Р О З А**

Янка БРЫЛЬ

# З НОВАЙ КНІГІ



## ПАРАСТАК

Пакуль і я сядзеў на эстрадзе, за сталом святочнага прэзідыума, перад вачыма, ніжэй былі лаўкі, на лаўках густа сядзелі людзі, а за тымі, хто сядзеў, яшчэ і стаялі, таксама ў шчодрым сонцы і пад дрэвамі, у цянёчку. Каб гэта адбывалася ў якім-небудзь памяшканні, сказаў бы пра перапоўненасць, а так жа прасторны сквер, і гарадок невялікі, і можна без перабольшвання гаварыць, што землякоў паэта сабралася вельмі многа.

Пасля ўрачыстай часткі пачаўся канцэрт. З эстрады мы, мясцовае кіраўніцтва і госці, пераселі на лаўкі. Мне давялося прымасціцца ў першым радзе.

Эстрада, змайстраваная са свежых дошчак, невысокая, каля метра над травой. Аднак дзяўчаты і хлопцы, самадзейныя спевакі і танцоры з гэтага і суседняга раёнаў, і пяюць, і танцуюць нам зверху. Зладжаны перастук мноства надзейных ног, гарэзнае паблісканне белых трыко з-пад каляровых спаднічак, румянец азарту і стомы, вясёлыя вочы, усмешкі... Хораша!

А над усім гэтым — тое, чаго я не бачу, седзячы на эстрадзе або стоячы перад мікрафонам. Гэта — яго партрэт. На белай палатніне — чорны. Вялікі і падобны. Не задорна ўсмешлівы марачок, якім я ўпершыню ўбачыў паэта восенню сорак пятага, а хварабліва худы, спакутаваны, рэзка маршчыністы на самым пачатку сёмага дзесятка. З-пад гаматнай, рабенькай кепкі — строгія вочы і падабенства ўсмешкі, якая ледзь-ледзь прабіваецца праз стрыманасць журботна сцятых вуснаў.

Смелы, сардэчны, тонкі і працавіты Дзіма, Дзмітрый Кавалёў, **паэт.**

І адбываецца гэта ў яго зялёнай, сонечнай, старадаўняй Ветцы, куды мы з Гомеля прыйшлі на белым цеплаходзіку шырокім паўнаводным Сожам.

Ніжэй, вышэй зялёныя берагі, спакойная і чыстая вада, ранняе сонца. Мы раскалыхваем раку, гайдаем лодкі з цярплівымі рыбакамі. Нам добра маўчыцца, цёпла гаворыцца — пра яго.

Калі пра маўчанне і гутарку, дык я тут **«мы»** гавару пра двух. На верхняй палубе цеплаходнага носа мы сядзім з Дзімавым меншым. Гэты масквіч з маленства ведае Сож і аколіцы. Матэматык, рыбак, фатограф, ён падобны на бацьку і з твару, і голасам, і смехам. Ён любіць, ведае яго паэзію. Зрэшты не толькі бацькаву, і не проста любіць — мае, здаецца, нейкую таямніцу і сам... Упершыню без бацькі, не па-сямейнаму — па-юбілейнаму плывуць у гарадок, з маленства любы і яму, Міша гаворыць трохі, больш маўчыць. І мне з ім блізка сумна, светла на душы...

Дзімы восем гадоў няма, у гэтыя дні яму было б семдзесят. І ўжо не ён, не мы з ім, а толькі мы самі бачым і чуем, як яго ведаюць тут і любяць.

Учора ў Гомелі быў вечар у парку, у адкрытым тэатры. Выступалі паэты беларускія, рускія, украінскія, — свята яго і свята дружбы літаратур, на якім імя Кавалёва, беларуса па бацьку, рускага па маці, гучала як сімвал гэтай дружбы.

У Ветцы ўсё атрымалася прасцей, сардэчней, яшчэ больш сардэчна. Да паэтаў, з іх успамінамі і вершамі, падключыліся чытачы. З яго паэзіяй, якую па памяці гаварылі людзі розных узростаў і прафесій, выходзячы з натоўпу на эстраду, да непрывычнага мікрафона. Успаміналі сустрэчы, яго чалавечую прастату, справядлівасць. Ганарыліся зямляцтвам. І няхай ва ўсім гэтым была нейкая доля разумнай арганізаванасці, але ж і шчырасць была, і прыўзнятасць сапраўднага свята.

А для мяне — яшчэ і такое:

Маленькі хлопчык з соскай у губах вызваліўся ад маладое мамы, што сядзела з ім у першым радзе, трохі воддаль ад мяне. Вось ён — амаль зусім ужо ўпэўнена тэпае па траве, каля свежапагабляваных дошчак эстрады, нявысокай для дарослых. Для яго яна — высокая, бясконца доўгая сцяна. На сцэне нейкая цёця спявае, і голас яе — недзе вельмі высока над ім. А ён вось тэпаў, тэпаў і дайшоў да таксама маленькага дрэўца. Быў клёнік, і яго зламалі. Не эстраду днямі майструючы, а раней. Старчак стволіка пачарнелы даўно. А побач з гэтым чорным канчаром, з-пад кораня яго выйшаў у сонца парастак. З далонькамі зялёнай радасці, новых лістоў. Яны яшчэ не вышэй за хлопчыка з пустышкай—яшчэ адной адзнакай найбольшай улады над душамі. Малы спыніўся каля клёніка, пастаяў. Не тузануў яго па звычаю маленькіх рук, і не пагладзіў, як хацелася б каму-небудзь, а проста пастаяў і паглядзеў. Тады павярнуўся ў мой бок, таксама паглядзеў, знізу ўверх, вельмі зблізку. Я хацеў яго ціхенька прытрымаць, паказытаць пад пашкамі або пагладзіць па галаве, а ён не даўся — крутануўся і пабег туды, дзе мама. Смеючыся з соскай у губах, якою ён выдатна аваладаў.

Падумаеш, такі ўжо ты герой!.. У майго чацвёртага, найменшага ўнучка звычайна бывае па сосцы ў кожнай руцэ. Паднімеш яго, вымеш з рота адну, — такі вялікі, як не сорамна! — а ён спакойна хап! другую ў рот і далей думае сваё...

І тут мне ў памяці — зірнуўшы на партрэт — пачуўся Дзімаў смех. Шыракароты, малады, па-руску кажучы **заразительный**, які я так часта чуў, не абыякава чуў, які прагучаў бы, напэўна, і тут, — калі б мы сядзелі ўдвух, каб я нашаптаў яму тыя дзве соскі.

Дзіма любіў жыццё. Яно было ў яго нялёгкае, — каваль, настаўнік, паўночны падводнік у вайну, пасля вайны бесквтэрны літработнік, няўрымслівы праўдашукальнік і абаронца, — нялёгкае, а ён любіў яго на ўсю душу. І многае нам з яе перадаў — словам сваім і памяццю пра сябе.

Хай бы ж мы разам убачылі гэта: зялёны клёнік з-пад чорнага старчака і чалавечы парастак, хлапчаня, што зноў вось тэпае па траве і смяецца...

## ЗБОКУ

Вестка прыйшла са спазненнем на месяц. З Лодзі ў Мінск, у прыватным пісьме. Памёр Ян Гушча. Польскі паэт, празаік, перакладчык. Паходжаннем наш зямляк. Гэта—калі даведачна. А як цяплей у думках, з належнай удзячнасцю,—і чалавек неблагі, і добры, а то і выдатны перакладчык беларускай літаратуры, перш за ўсё паэзіі.

Да гэтай працы яго, на працягу семнаццаці гадоў знаёмасці, я меў пэўнае, дапаможнае дачыненне. З перакладамі прозы—таксама. Тут ужо мы і адзін аднаго крыху перакладалі. У нас была перапіска, зрэдку сустрэчы, у Польшчы і ў Беларусі, былі збліжэнні, і разыходжанні... Жыццё.

А сёння вось, зноў жа ледзь не праз месяц пасля атрымання жалобнай весткі, мяне—самотным вечарам, што як быццам таксама мае значэнне—пацягнула да зробленай Гушчай анталогіі нашай паэзіі. Не той, першай анталогіі, што і невялікая была, і называлася сціпла: «Вершэ бялорускe», а другой, ужо куды значнейшай. Выдадзена яна, можна сказаць, двойчы акадэмічна: і таму, што ў слаўтым «Ossolineum», і таму яшчэ, што ў гэты, даволі салідны том з вялікай прадмовай і бібліяграфіяй, увайшлі і некаторыя тэксты народных песняў, і ананімная паэзія, і творы паэтаў толькі памёршых, з адным выключэннем—вершамі Танка, з увагі не проста на ранг паэта, а на яго значэнне ў дружбе нашых літаратур.

Гартаю, думаю...

Гушча любіў Багдановіча. Значэнне яго разумеў. Перакладаў з веданнем мовы, з майстэрствам, сагрэтым любоўю.

Аднак я не толькі пра гэта—перш за ўсё я хачу яшчэ раз як след зразумець, усвядоміць тое, што хвалююча адчуваю: як гэта добра—сваё ўбачыць чужымі вачыма! **«Чужымі»**—кажучы ўмоўна. Можа, лепш будзе **збоку**, вачыма знаўцы іншамоўнага. Нават і ведаючы тую ці іншую мову, бачанне збоку наведвае нас нячаста. Затое ж радасна, з адчуваннем свежасці, навізны, глыбіні.

Хачу сказаць пра гэта на прыкладзе аднаго толькі верша, які не проста спыніў маю ўвагу, а ўразіў як штосьці зусім новае, нібы адчутае, убачанае ўпершыню.

Маленькі верш, адзінаццаць радкоў. Накід без рыфмаў. З раздзела, названага зусім празаічна: «З чарнавых накідаў 1909—1916 гг.». Дзіўна гэта і незвычайна, радасна—**чарнавы шэдэўр!** Высокая, найглыбейшая шчырасць, непасрэднасць пачуцця. У маладога, безнадзейна хворага. Можа, таму і адчуваў ён гэта, недасяжнае, з адпаведнай сілай,— цнатлівасць шчырай зachаханасці, нязбыўнае шчасце бацькоўства. З такім чыстым і паэтычным намёкам на тое, што каб маткай дачушкі, якую яму так хацелася б мець, каб маткай была толькі яна—невядомая нам дзяўчына, якой, трэба думаць, завочна, у марах гаворыцца балюча і шчасліва запаветнае...

Але што ж гэта я—не сказаў, пра які верш гаворка! Больш таго, мне хочацца і прывесці яго тут спачатку ў перакладзе, поўнасцю. І таму, што ён кароткі, і што не ў кожнага ёсць тая анталогія, і яшчэ больш таму, што ён мяне на гэты раз спачатку ўразіў **бачаннем нашага збоку**, адчуваннем двайным—**і сваім, і староннім.**

Więcej niczego nie pragnę, na
                    świecie,
Żeby tylko mieć własne
                    dziecię,
Córeczkę-niemowlę,
Anię, córkę Maksima,
Taką, ładniutką,
Ciepłą, mokrzutką,
Z czarnymi włosami i brewkami,
Z ciemnopiwnymi oczkami.
O rączkach zwięzłych, jakby
            ściągniętych nićmi,
Zupełnie taką jak Pani,
Kiedy maleńką, byłaś
                dziewczynką.

Цяпер прыводзіць арыгінал, цытаваць агульнавядомае? Ну што ж, адзінаццаць радкоў,—іх вам зручней, паважаны чытач, перачытаць тут у мяне, чым уставаць ад стала, ісці да паліцы. А найважней, галоўнае тут—хочацца адразу пакласці на мову перакладу—словы самога аўтара.

**Больш за ўсё на свеце**
                **жадаю я,**
**Каб у мяне быў свой дзіцёнак—**
**Маленькая дачушка-немаўлятка,**
**Аня Максімаўна,**
**Такая прыгожанькая,**
**Цёпленькая, мокранькая,**
**З чорнымі валосікамі**
                **і броўкамі,**
**З цёмна-карымі вочкамі.**
**А ручкі, як перацягнутыя**
                **ніткамі.**
**Зусім такая, як Вы,**
**Калі Вы былі маленькай**
                **дзяўчынкай.**

Яшчэ раз адчулася тое адно для ўсіх, усюды, заўсёды бясспрэчнае: **толькі так,** як яно адчулася, як сказалася аўтарам па-свойму,—толькі так яно гучыць найлепш.

Аднак і таму, хто гэты свяшчэнны агеньчык заўважыў, узяў іданёс да свайго чытача, аддаў яго ў скарбніцу яшчэ аднаго народа, таму мне хочацца сказаць:

Яне, ты гэта вельмі нядрэнна зрабіў! І гэта, і нямала іншага!..

З сумам сказаць, не памятаючы добра, ці часта гаварыў такое ў свой час, да месца,—жывому...

## ДВОЙЧЫ ПА ДВА

Таленавіты крытык, разумны, вясёлы таварыш з нялёгкім мінулым загадваў аддзелам паэзіі ў так званым тоўстым часопісе. Калі заходзіў яшчэ адзін, далёка не першы, аўтар, малады ці старэйшы з выгляду, больш-менш адкрыта самаўпэўнены ці да часу прытоена сціплы, загадчык ветліва запрашаў яго прысесці каля стала і яшчэ больш ветліва, нават і па-французску, схіляўся ў пытанні:

— Ля паэзі?

У голасе і надзея была, і страх перад новай пакутай чытаць, бракаваць, выслухоўваць нязгоду, і проста вясёлая, дабрадушная стома. І ад жыцця ўжо тым часам, а то больш ад штодзённай процьмы рыфмаванай і белай прадукцыі.

Яго, на жаль, ужо даўнавата няма. І ён мне нядаўна—з тым сваім пытаннем—прыемна ўявіўся ў адным з кабінетаў раённай газеты, куды мы з сябрам пазямляцку забрылі.

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

**Новая пастаноўка «Яўгенія Анегіна» (музычны кіраўнік і дырыжор М. Калядка, рэжысёр В. Шышоў, сцэнограф Д. Мохаў) упершыню была паказана сёлета ў маі. Да канца сезона спектакль прайшоў некальні разоў, з рознымі выканаўчымі складамі. Розныя былі таксама ўражанні і меркаванні тых, хто пабываў на прэм'ерных паказах. Шчыра сказаць, музыказнаўцы, крытыкі па першым часе адмаўляліся выказвацца на старонках друку. Маўляў, па-першае, хрэстаматыйны твор П. Чайкоўскага мае настолькі багатую сцэнічную гісторыю, што ні пра якое «адметнае», «новае», «свежае» яго прачытанне сёння не можа быць і гаворкі, дык тады навошта пісаць? Па-другое, пастаноўку «Яўгенія Анегіна» нельга на гэты раз лічыць удачай тэатра, дык, зноў жа, навошта пісаць?**

**Сапраўды, першыя паказы оперы ўразілі не лепшым чынам. Гучанне аркестра пад кіраўніцтвам М. Калядкі (а гэта, бадай, першая сур'ёзная яго работа як дырыжора-пастаноўшчыка) ніяк не адпавядала аўтарскаму вызначэнню твора — «лірычныя сцэны». Да драбніц знаёмая музыка здавалася, часам, чужою: замаруджанай, вязкай, грувасткай, штучна шматзначнай і... нуднай.**

**Можа, менавіта дзіўнаватая трактоўка партытуры П. Чайкоўскага адбівалася на агульным уражанні? Але ж нельга было не заўважыць акцёрскую самааддачу і пранікнёнасць Н. Губскай (Таццяна), дзівосную арганічнасць Н. Рудневай ва ўзроставай ролі (няня), майстэрства А. Саўчанкі, які спяваў Анегіна на беларускай сцэне і ў колішняй пастаноўцы, яркасць работы В. Цішынай (Вольга), свежасць, юнацкую непасрэднасць сцэнічнага дэбюта І. Шупеніча, выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (Ленскі).**

**Прэм'ера «Яўгенія Анегіна» была паказана ўжо ў новым сезоне. Вось уражанне крытыка, які пабываў на тым спектаклі.**

# „І ЎЛАДАРЫЦЬ ПАЧУЦЦЁ...“

## «ЯЎГЕНІЙ АНЕГІН» у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР

Наўрад ці знойдзецца ў нас у краіне опера, якая можа параўнацца з папулярнасцю гэтага шэдэўра рускага музычна-лірычнага тэатра. З дня прэм'еры ў 1881 годзе назва оперы не сыходзіць з афіш тэатраў, а музыка яе сапраўды стала любімай мільёнамі слухачоў, для многіхператварылася ў эталон оперы.

Аднаўленне на мінскай сцэне «Яўгенія Анегіна», пастаноўкі якога былі ў рэпертуары з часоў заснавання Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, аматары опернага мастацтва чакалі даўно. І вось—прэм'ера.

Сцэна са спектакля. Фота А. ДЗМІТРЫЕВА

Жаданне сустрэчы з цудоўнай музыкай П. Чайкоўскага змагалася ўва мне з боязззю расчаравання. Колькі ўжо разоў так было: ідзеш у тэатр, настройваешся на ўспрыманне опернага спектакля, стараешся загадзя зрабіць сякія-такія «допускі» на розныя выпадковасці, несупадзенні, неадпаведнасці і г. д. А ў выніку—сядзіш, слухаеш, глядзіш і не разумееш: ці тая гэта музыка, якая заўжды здавалася такой цудоўнай? Ці тая гэта опера, вядомая табе да дробязей? І ўвогуле, сумуеш, чакаючы, калі прагучаць апошнія такты партытуры...

Гэткія «развагі» перашкодзілі мне пайсці на прэм'еру «Яўгенія Анегіна» вясной гэтага года, але настаў новы сезон— і я ўсё ж адважылася.

Прызнацца, пісаць пра гэты спектакль не збіралася. Таму, натуральна, ніякай дадатковай інфармацыяй пра падрыхтоўку оперы да пастаноўкі, пра работу дырыжора, рэжысёра, мастака, вакалістаў не цікавілася— была ў ролі звычайнага аматара оперы, ну, магчыма, у сілу прафесіі, больш падрыхтаванага. Але і больш скептычна настроенага.

...З першых жа тактаў уступу знакамітай тэмы Таццяны музыка ўзяла ў палон. Радасць сустрэчы са знаёмым, успаміны пра той час, калі ў кансерваторскім класе штудзіравалі партытуры П. Чайкоўскага... Але паступова з'явілася і ўсведамленне таго, што тое, як выконваюцца ўсе гэтыя вядомыя дуэты, арыі, арыёза, як усё гэта не толькі спяваецца, але і іграецца, пражываецца на сцэне,—выклікае пачуццё глыбокага мастацкага задавальнення. І гэта пачуццё амаль не пакідала мяне на працягу спектакля. Закончылася першая дзея. Знаёмства з галоўнымі героямі і іх выканаўцамі адбылося: Анегін—В. Скорабагатаў, Таццяна—М. Гулегіна, Ленскі—Э. Пелагейчанка, Вольга — Л. Афанасьева, Ларына—Н. Галеева, няня — Н. Руднева.

Дзіўны і даволі рэдкі стан: у антрактах не хочацца размаўляць і думаць пра староннае, здаецца кашчунствам, калі нехта можа разважаць зараз пра штосьці такое, што не датычыць оперы і яе выканаўцаў. Бадай, менавіта такі стан Б. Асаф'еў назваў «эмацыянальным захапленнем». Пачуццё суперажывання, далучанасці да таго, што адбываецца на сцэне, часцей спадарожнічае гледачу на драматычным спектаклі. У оперы, з-за многіх спецыфічных умоўнасцей жанру, адчуць штосьці аналагічнае больш складана. Але тым больш радасна было ўсёй душой акунуцца ў «плынь атмасфер» спектакля.

Для мяне ў гэты вечар своеасаблівым цэнтрам прыцягнення стала М. Гулегіна. Спявачка, якая мае цудоўнае па тэмбры, сакавітае, яркае сапрана, надзяліла сваю гераіню драматызмам, страснасцю, актыўнасцю пачуццяў. Высокага эмацыянальнага напалу яна дасягае ў другой карціне. Усю неаднназначную па станах сцэну пісьма Таццяны спявачка пражывае выразна, шчыра, тэмпераментна і па-акцёрску арганічна. Цудоўны вакал, імкненне да выяўлення ўсёй найскладанай гамы пачуцця сваёй гераіні дазволілі М. Гулегінай стварыць яркі, запамінальны і хвалюючы вобраз.

Выканаўчая манера Э. Пелагейчанкі прываблівае лірычнай цеплынёй, унутраным натхненнем, выразнай і пластычнай кантыленай. Партыю Ленскага спявак правёў з вялікім пачуццём, усхвалявана і трапятліва.

В. Скорабагатаў стварыў вобраз Анегіна, у якім халодная стрыманасць спалучаецца з годнасцю. Ён знайшоў інтанацыі, у якіх адчуваеш прыветнасць і пачцівасць (3 карціна), а затым парыванне і збянтэжанасць (7 карціна). І вельмі шкада, што раптоўны (замест захварэўшага А. Саўчанкі) увод акцёра ў спектакль усё ж адбіўся на выкананні вакальнай партыі ў фінале оперы.

З добрым адчуваннем стылю, высакародна выканаў партыю Грэміна Я. Пятроў.

У оперы няма другарадных дзейных асоб—і ўсе вакалісты выступалі з поўнай самааддачай. На сцэне ўстанавілася арганічная сувязь паміж партнёрамі.

Аркестр пад кіраўніцтвам Г. Праватарава чуйна ўвасабляў музычную драматургію. На працягу ўсяго спектакля дырыжор дамагаўся ад сімфанічнага гучання пругкасці і рухомасці, рэльефнасці і лёгкасці, бляску і стрыманасці. Дыханне аркестра было цесна звязана з вакальна-інтанацыйным стылем партытуры. Даўно ўжо мне не даводзілася чуць такога тонкага гукавога балансу паміж сцэнай і аркестрам.

У партытуры оперы, дзе на першым плане лірычныя пачуцці герояў, хорам адводзіцца невялікае месца. Гэта жанравыя сцэны і карціны, хор дзяўчат у 3 карціне, харавыя эпізоды 4 карціны. На жаль, на гэты раз слоў у харавых сцэнах немагчыма было разабраць. Ды, можа, усяму віной акустыка залы? Бывала ж, калі даводзілася слухаць оперныя спектаклі на балконе, харавыя эпізоды не выклікалі пачуцця неўразумеласці.

Танцавальныя сцэны ў пастаноўцы В. Бутрымовіча не зусім, на мой погляд, удалыя як у пастановачным плане, так і па якасці выканання.

З мастацкага афармлення спектакля (Д. Мохаў) у памяці засталіся пейзажы першай, трэцяй і пятай карцін. Гэта свайго роду струны, настроеныя ў лад самым тонкім адценням душэўнага стану герояў.

І зноў прыгадваю асаблівы стан душы, выкліканы спектаклем «Яўгеній Анегін». Бо гэта потым ужо з'явіліся некаторыя крытычныя ноты і заўвагі, а тады было адчуванне радасці ад, не пабаюся гучных слоў, сустрэчы з цудоўнай музыкай і яе дастойным сцэнічным увасабленнем. Хацелася б даўжэй захаваць уражанне праўдзівасці і цудоўнага вакалу, якое падарыла слухачам М. Гулегіна, пагружэнне ў музычны свет спектакля, створаны дырыжорам Г. Праватаравым. Хочацца спадзявацца, што новыя сустрэчы ў зале тэатра оперы і балета прынясуць новыя «эмацыянальныя захапленні».

**Іна ГУРАРЫЙ**

ВІНШУЕМ

# НЕВЫЧЭРПНАЯ ЛЮБОЎ ДА ЖЫЦЦЯ

**У народнай артысткі БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР А. НІКАЛАЕВАЙ — юбілей**

Калі Аляксандра Васільеўна Нікалаева даведалася, што я збіраюся пісаць пра яе, то сказала: «Толькі не трэба зноў пра Зосек і Надзеек—нікому нецікава ўжо, ды і напісана шмат!» Пра яе цудоўнае майстэрства сапраўды багата пісалі балетмайстры, крытыкі, прафесары. Сведкі—захоплена і ўдзячна, тыя, каму не пашчасціла ўбачыць сцэнічныя работы А. Нікалаевай,—з вялікай павагай да яе таленту, працы, асобы.

Выпускніца знакамітага Ленінградскага вучылішча, выхаваная ў акадэмічных сценах, яна магла б паехаць з Мінска, адпрацаваўшы год па кантракце. Бо тэатра не было, на месцы яго цяперашняга будынка яшчэ вірэваў Траецкі рынак. Але яна не паехала. І менавіта ёй першай архітэктар І. Лангбард паказаў будучую сцэну ў тэатры, які будаваўся.

Менавіта Аляксандра Васільеўна, ці то інтуітыўна, ці то з-за прыхільнасці да ўсяго новага, падказала канцэртмайстру тэатра М. Крошнеру думку пра напісанне «Салаўя», балета, які стаў этапным у развіцці беларускага харэаграфічнага мастацтва.

— Вы, маладыя, цяпер думаеце, што ў нас былі прымітыўныя пастаноўкі, праўда? А вось і памыляецеся!—Аляксандра Васільеўна пачынае азартна паказваць мне варыяцыю з «Капеліі», потым з «Салаўя», і я здзіўляюся багаццю тэхнічных цяжкасцей. Двайныя піруэты, со-дэ-баскі па крузе, найскладаныя фуэтэ ў падскоку, прыдуманыя пастаноўшчыкам балета «Салавей» А. Ермалаевым, які славіўся сваёй віртуознасцю,—усё тут было! Цяпер цяжка ўявіць, як у зусім не прыстасаваных памяш-

КАНЦЭРТНАЯ МАЗАІКА

# НЯХАЙ ПРАДОЎЖЫЦЦА САДРУЖНАСЦЬ

Урачыстым гучаннем сімфанічнай паэмы А. Рэспігі «Рымскія святы» адкрыўся гэты вечар у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. За дырыжорскім пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР— Эдуард Сяроў.

Гэтае імя сёння шырока вядомае. Выхаванец школы выдатнага савецкага дырыжора Яўгенія Мравінскага, ён яшчэ ў 1969 годзе атрымаў міжнароднае прызнанне, стаўшы адным з пераможцаў конкурсу «Фонд Герберта фон Караяна». Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Э. Сяроў працаваў з рознымі выканаўчымі калектывамі, на працягу некалькіх гадоў узначальваў створаны ім сімфанічны аркестр Ульянаўскай філармоніі, шмат гастраляваў па краіне і за мяжой. З 1975 года ён кіраваў Ленінградскім аркестрам старадаўняй і сучаснай музыкі, а зусім нядаўна дырыжор вярнуўся ў знакаміты аркестр Ленінградскай дзяржаўнай філармоніі імя Д. Шастаковіча.

Нямала твораў такіх буйных майстроў XX стагоддзя, як Б. Брытэн, П. Хіндэміт, Ч. Айвз, А. Веберн, былі выкананы пад кіраўніцтвам Э. Сярова ўпершыню ў СССР, нярэдка ён рыхтуе прэм'еры твораў савец-

# Прагучала ў Полацку

У той дажджлівы восеньскі вечар да Сафійскага сабора нетаропка накіроўваліся людзі. Капрызлівае надвор'е не магло азмрочыць іх прыўзнятага настрою, добра вядомага ўсім, хто ідзе на сустрэчу з мастацтвам. У канцэртнай зале Полацка адкрываўся новы, трэці канцэртны сезон.

Пачаўся ён канцэртам саліста Маскоўскай філармоніі Аляксандра Фісейскага і Мінскага камернага аркестра (у рамках абанементнага цыкла «Выбраныя старонкі сусветнай арганнай літаратуры»). Гучалі творы кампазітараў позняга барока. Вытрыманая ў адным стылі праграма вечара ўвабрала ў сябе чатыры зусім розныя па характары і па музычным змесце канцэрты.

Першым выконваўся Канцэрт до мажор А. Вівальдзі для скрыпкі, габоя, аргана і камернага аркестра — дзівоснае па прыгажосці і кампазітарскім майстэрстве сачыненне, якое вызначаецца філіграннай адточанасцю кожнай сольнай партыі, манументальнай велічнасцю, мяккім пранікнёным лірызмам. У І частцы, у яе ажурнай інструментоўцы, віртуозным бляску кожнай партыі, асабліва саліруючых скрыпкі і габоя (партыю скрыпкі выконваў М. Штэйн, сола габоя — А. Прыходзька), выявіліся дасканалая тэхніка выканаўцаў, іх тонкае адчуванне ансамбля. Сумная, светлая споведзь габоя і скрыпкі, што падтрымліваецца строгімі акордамі аргана і чэмбала, — Адажыо, ІІ частка. Яе выкананне вызначалася ідэальным ансамблем салістаў М. Штэйна, А. Прыходзькі, А. Фісейскага, інтанацыйнай еднасцю. Тэма фіналу характарызуецца паўнагучнай імклівасцю, шчыльнай фактурай, пераважаннем больш ёмістых «канкурыруючых» пластоў музычнай тканіны. «Дыялог» тут у асноўным вялі не салісты, а аркестр і арган. У цэлым кан-



Народныя артысты БССР А. НІКАЛАЕВА і С. ДРЭЧЫН у спектаклі «Лебядзінае возера». 1948 год.

каннях, у клубах, дзе не было ні залаў для рэпетыцый, ні грымуборных, а толькі маленькая і няэручная сцэна, людзі ставілі новыя спектаклі. Ды яшчэ якія! «Капелія» Л. Дэліба, «Марная перасцярога» Г. Гертэля і нават «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага.

Калі пачалася вайна, беларускіх артыстаў эвакуіравалі ў Алма-Ату, дзе пасля спектакляў яны часта давалі славутыя начныя канцэрты, зборы ад якіх цалкам ішлі для дапамогі фронту. Потым былі Горкі, Масква, выступленні ў партызанскіх брыгадах і на франтах, у шпіталях і на заводах.

— Аляксандра Васільеўна, а на вайне вам страшна было?— пытаюся.

Яна глядзіць на мяне неўразумела і адказвае пытаннем: «Як вы думаеце, ці лёгка было танцаваць у Оршы ў саборы, дзе ніводнага акна і ўсе сцены ў інеі? Ці ў брыгадзе ў Ракасоўскага, калі за тытунёвым дымам гледачоў не відаць?»

І я разумею, што тады яна не задумвалася над тым, страшна гэта ці не, небяспечна ці не. Яна танцавала балеты, канцэрты, ездзіла па франтах і ў тыле і кожным сваім выступленнем змагалася за перамогу.

На сценах у пакоі Аляксандры Васільеўны фотаздымкі: «Лебядзінае возера», «Салавей», рэпетыцыя ў пустой зале, акварэльны партрэт у пачцы і пер'і Адыліі, а вось некалькі здымкаў з выхаванцамі. Бо А. Нікалаева была і мастацкім кіраўніком Беларускага харэаграфічнага вучылішча, а першы нумар вучняў, паказаны на справаздачы ў Маскве, быў пастаўлены ёю. Даводзілася ёй ставіць і канцэртныя нумары больш маштабныя: для выступлення на стадыёне Аляксандра Васільеўна аб'ядноўвала ў адно цэлае па 800 чалавек!

— А ведаеце, хто быў у нас у Ленінградскім вучылішчы піяністам?—раптам весела ўсміхаецца Аляксандра Васільеўна.—Ніколі не здагадаецеся! Мравінскі! Так, так, гэты самы, вядомы. Цікава, праўда?

Я гляджу на гэтую маладжавую і жыццярадасную жанчыну, і цяпер яна мне здаецца ледзь не равесніцай. Уся яе энергія—у сённяшнім дні, у занятках народнага балетнага калектыву, у шматлікіх грамадскіх нагрузках, у сапраўднай цікавасці да жыцця. Яе ўвага спыняецца і на перадачы пра Інстытут чалавека («Вы не глядзелі? Шкада! Вельмі цікава!»), і на фотаздымках з урока джаз-танца ў Маскоўскім харэаграфічным вучылішчы, і на новым фільме. Дзіўна, як змагла Аляксандра Васільеўна праз нягоды і цяжкасці, праз страшную вайну пранесці такую яснасць духу, такі заразлівы аптымізм.

— Аляксандра Васільеўна, а што вы думаеце пра сённяшні беларускі балет?—пытаюся я, ведаючы, што Нікалаева не прапускае ніводнай прэм'еры Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР.

— Добрыя пастаноўкі, відовішчныя, прыгожыя. Елізар'еў уздымае сусветныя праблемы, і гэта правільна, сучасна. Падтрымка, тэхніка—усё выконваецца віртуозна.

Аляксандра Васільеўна дастае газету з матэрыялам пра іспанскія гастролі нашага балета.

— Вы ездзіце за мяжу—гэта цудоўна! Я рада, што беларускі балет стаў такі знакаміты. Толькі не забывайце пра тое, як усё пачыналася... А ведаеце, многім маім равеснікам не падабаецца, як цяпер танцуюць і пад якую музыку. Старыя бурчаць, што класікі мала, а гімнастыкі шмат. Але ж гэта несправядліва! Час нараджае такі рытм, без якога жыць немагчыма. Я, напрыклад, за сучасную музыку і сучасны танец!

Аляксандра Васільеўна хітравата прыжмурваецца і прадаўжае:

— Калі нават у Маскоўскім вучылішчы выкладаюць джазтанец, значыць, і «акадэмія» прызнала яго неабходнасць.

Яна зноў вяртаецца да гадоў сваёй творчасці:

— Мы таксама, як і вы, шукалі, эксперыментавалі... Але нам было прасцей, таму што да нас ніхто такога не рабіў, ды і складаней было таксама менавіта таму.

Аляксандра Васільеўна глядзіць на мяне дапытліва:

— А можа, нашы намаганні не прапалі дарэмна? Як вы лічыце?

Вядома, не прапалі. Усё, створанае такімі людзьмі, іх талент, натхнёная і самаадданая творчасць уваходзяць у залаты фонд нашага мастацтва. І сёння Аляксандра Васільеўна глыбока цікавіцца ўсім, што адбываецца ў свеце. Яна лічыць сябе асабіста далучанай і адказнай за ўсё, што зрабіў і робіць цяпер наш народ.

Цудоўна, што ля вытокаў беларускага балета стаяў такі майстар і такі чалавек, народная артыстка БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксандра Васільеўна Нікалаева.

**Наталля ЗЕМЧАНКАВА,**
**артыстка балета**

кіх кампазітараў.

Мінскім аматарам музыкі запомнілася сустрэча з выканаўчым мастацтвам Э. Сярова, якая адбылася некалькі гадоў назад. Тады гучала Дзевятая сімфонія Л. Бетховена. І вось цяпер—А. Рэспігі, М. Равель, С. Рахманінаў.

Класічная стрыманасць, без надуманасці, без лішняй афектацыі, перакананасць і воля, уменне падпарадкаваць агульнаму развіццю шматвобразнасць выяўленчых дэталей... З першых жа тактаў паэмы «Рымскія святы», якая ўключае ў сябе чатыры разгорнутыя праграмныя эпізоды, дырыжор захапіў сваім тэмпераментам, мэтанакіраванасцю ў арганізацыі музычнага руху. Чуйны да ўладарнага жэсту Э. Сярова, аркестр быццам перагортвае старонкі рымскай гісторыі, узнаўляючы карціны розных эпох з жыцця Вечнага горада: «Цыркавое відовішча»—любімая жорсткая забава старажытных рымлян, крывавая бойка смяротнікаў-гладыятараў; «Юбілей»—паломніцтва ў сярэдневяковы Рым натоўпаў вандроўнікаў-пілігрымаў; жанравыя сцэны часоў Адраджэння; нястрымнасць народнай гульбы і перамога магутнага самасцвярджэння рымскіх грамадзян у «Свяце хрышчэння».

Быццам на адным дыханні, лёгка і імкліва завабліваючы слухачоў у атмасферу дыянісійскага свята, была выканана Другая сюіта М. Равеля з балета «Дафніс і Хлоя». І рэзкім кантрастам гэтай светлай, захоплена-гімнічнай музыцы прагучалі «Сімфанічныя танцы» С. Рахманінава—разважанні пра жыццё, пра чалавека, адна з самых глыбокіх і складаных сімфанічных канцэпцый кампазітара, сачыненне, якое завяршыла яго творчасць.

Э. Сяроў імкнецца перш за ўсё да канкрэтнасці і дакладнасці ва ўзнаўленні аўтарскай задумы. Ці не дзякуючы самаадданай захопленасці музыкай нараджаецца чулы кантакт паміж дырыжорам і аркестрам, аркестрам і залай? «Аўтарскаму» адчуванню музычных твораў, па словах самога Э. Сярова, які прайшоў курс кампазіцыі ў прафесара Ленінградскай кансерваторыі В. Салманава, памагае і ўласны творчы вопыт, хоць для сістэматычных заняткаў кампазіцыяй напружаная, інтэнсіўная артыстычная дзейнасць амаль не пакідае часу.

Эдуард Сяроў—майстар з адметным тэмпераментам, воляй. Яго канцэрты робяцца сапраўднымі музычнымі падзеямі. З цеплынёй гаворыць дырыжор пра сумесную работу з Акадэмічным сімфанічным аркестрам БССР:

— Мне было прыемна выступаць у Мінску. У аркестры добрая, зацікаўленая атмасфера. Музыканты чуйныя да дырыжорскай ініцыятывы.

Будзем спадзявацца, што садружнасць Э. Сярова з нашым аркестрам прадоўжыцца.

**В. ГАРТ**

цэрт А. Вівальдзі прагучаў жыва, цікава, маляўніча, з прываблівай шчырасцю і цеплынёй.

Свецкі, вытрыманы стыль Канцэрта Г. Ф. Гендэля соль мажор для аргана і камернага аркестра. Тут раскрыліся новыя грані калектыву і саліста — глыбіня псіхалагічнага пранікнення ў вобразны лад такіх розных па характары частак твора, уменне спалучыць гэтую рознасць у адзінай кампазіцыі. Уступныя, як стогны, інтанацыі аркестра папярэднічаюць цудоўнаму дуэту скрыпкі і віяланчэлі (М. Штэйн і А. Кучынскі) на фоне выразнай партыі аргана. Тэма журботная, строгая. Запытальныя інтанацыі скрыпкі быццам абуджаюць аркестр з глыбокай задуменнасці, але не знаходзяць у яго адказу... Затым Адажыо: яркая, рухавая тэма, з шырокімі меладычнымі скачкамі, з элементамі імітацыі. Псіхалагічная напружанасць гэтага раздзела змяняецца строгім, стрыманым Адажыо III часткі. Адзначу ўдалыя выканаўчыя знаходкі А. Фісейскага, якія выявіліся ў казачна незвычайнай рэгістроўцы саліруючай партыі аргана (супастаўленне палярных тэмбраў інструмента). Аднак у сольных арганных эпізодах такое ажурнае ўбранне здаецца занадта кволым.

Пасля антракту прагучаў адметны твор нямецкага кампазітара XVIII стагоддзя К. Ф. Э. Баха (другога сына І. С. Баха) — Канцэрт мі-бемоль мажор для аргана і камернага аркестра. Асабліва дзівосная сваім харастом і ўнутраным зместам музыка II часткі. Шырокія меладычныя хады, нізкі рэгістр, строгі, высакародны стыль — усё, што перадае глыбіню чалавечых перажыванняў, атрымала тут пераканальную выканаўчую інтэрпрэтацыю. Рэальная рэчаіснасць, жывая думка, пачуццё, боль, выказаныя аркестравымі сродкамі, нібы супрацьпастаўляліся ўзнёсламу, «незямному» свету, цудоўна перададзенаму мовай аргана.

Завяршыўся вечар яшчэ адным Канцэртам Г. Ф. Гендэля для аргана і камернага аркестра. Урачыста-велічнае, у асноўным дзякуючы партыі аргана, Ляргета змянілася радасным «шчабятаннем» II часткі. Арганісту ўдалося з максімальнай рытмічнай дакладнасцю перадаць лёгкасць, прыгажосць музычных характарыстык гэтага раздзела, выявіць непаўторныя фарбы інструмента. Уладарныя, рашучыя воклічы арганнай кадэнцыі растварыліся ў пакорлівых, запытальных інтанацыях аркестра, тонка перададзеных у ледзь улоўным «піянісіма» III часткі. І, нарэшце, — радасны фінал — свята святла і дабра.

Увесь канцэрт прайшоў на адным дыханні і яшчэ раз прадэманстраваў высокую выканаўчую культуру калектыву Мінскага камернага аркестра, а ўлічым жа і той факт, што аркестр выступаў без дырыжора. Гэтую функцыю паспяхова выконваў саліст калектыву, скрыпач Міхаіл Штэйн.

Вяла вечар музыказнавец Кацярына Кірылава. Яна пазнаёміла слухачоў з асаблівасцямі стылю барока, з жанрам канцэрта, з творчасцю кампазітараў, чыя музыка выконвалася, расказала пра Мінскі камерны аркестр, але, на жаль, ні слова — пра самі творы. А менавіта ж жывое слова пра музыку памагае непадрыхтаваным слухачам зразумець яе складаную і цудоўную мову!

Новы канцэртны сезон у Сафійскім саборы пачаўся. Яго насычаная, разнастайная праграма абяцае шмат цікавых сустрэч, прыемных уражанняў.

**Л. ТАІРАВА**

# Прысвячалася Шастаковічу



Салістка — народная артыстка РСФСР Наталля Шахаўская.



Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі Юрыя ЯФІМАВА.

**Фестываль сімфанічнай і камернай музыкі Дзмітрыя Шастаковіча прайшоў на мінулым тыдні ў Мінску. У канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі і ў зале на Залатой Горцы выступілі беларускія выканаўцы і нашы госці. Гэтыя здымкі Ул. Крука зроблены ў час першага сімфанічнага канцэрта, якім адкрыўся фестываль. Нагадаем, што сёлета шырока адзначаецца 80-годдзе з дня нараджэння Д. Шастаковіча.**

**КАРОТКІЯ РЭЦЭНЗІІ**

## *Абмяркоўваем творы, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР*

КНІЖКА нарысаў В. Праскурава «Чорны хлеб» — яшчэ адно прызнанне ў сыноўняй любові да роднай зямлі, шчырая споведзь сэрца. І хоць зборнік невялікі — усяго дзевяць друкаваных аркушаў — ён грунтоўны і змястоўны, як і папярэднія кніжкі нарысаў В. Праскурава, якія перыядычна з'яўляліся на паліцах кнігарань і, трэба адзначыць, не залежваліся, знаходзілі свайго чытача. Аб чым жа новая кніжка В. Праскурава?

У полі зроку нарысіста перш за ўсё людзі працы: ляснік і калгасны брыгадзір, перадавая даярка і знакаміты старшыня калгаса... Гэтыя людзі для В. Праскурава — першааснова, той падмурак, на якім трымаецца ўсё астатняе: замілаванасць краявідамі, ваколіцамі і этнаграфічнымі рысамі роднага Палесся, маральныя ўзаемаадносіны паміж людзьмі, гонар за нашага, савецкага, чалавека.

Лепшы твор у кнізе — нарыс, а хутчэй аповесць «Рута-мята». Героем яе В. Праскураў выбірае маладога старшыню сельпо — чэснага, рамантычнаўзнёслага і разам з тым энергічнага і прынцыповага юнака. Сваім выбарам аўтар як бы загадзя разбурае той стэрэатып адмоўнага героя «ад гандлю», які на працягу многіх гадоў сфарміраваўся ў літаратуры, і асабліва ў нашай кінапрадукцыі...

Перш за ўсё прываблівае ў аповесці чысціня чалавечых адносін. Сумленнымі адносінамі да працы — гэта лейтматыў усёй кніжкі — у нашым грамадстве і вымяраецца годнасць асобы, сцвярджае аўтар. Бо варта аднойчы пайсці на маленькі кампраміс з самім сабой, грамадскія інтарэсы падпарадкаваць уласным — і бяда ўжо на парозе. Так менавіта ў пастку прыватнаўласніцкіх інтарэсаў трапляе і гераіня твора Галіна, выпадкова знайшоўшы на старым яўрэйскім дворышчы каля раструшчанай маленькай печы гаршчок з золатам. Вырвацца з гэтае пасткі ў дзяўчыны не стае сіл...

# ПРА ТЫХ, ХТО СЕЕ ХЛЕБ

Галіна знаходзіць сабе спадарожніка жыцця «па густу», яны ўцякаюць з чамаданам грошай з родных мясцін, ды сумеснае жыццё, пабудаванае на знойдзеным гаршку з золатам, было недаўгавечным... Муж Галіны хутка співаецца, гіне пры недарэчных абставінах, але і Галіна маральна загінула яшчэ раней, і ў фінале аповесці перад рэдактарам раённай газеты, Аляксеем Фамічом, сядзіць здань той, былой Галіны, бляск залатых пярсцёнкаў слепіць яму вочы, не дае разгледзець у гэтай раздабрэўшай, з патухлымі вачамі жанчыне жывога чалавека, якога ён таксама калісьці кахаў...

Маральная чысціня людзей, якіх В. Праскураў выбірае ў свае героі, бездакорная, але гэта не самамэта,— яна паветра, якім дыхаюць гэтыя простыя, сціплыя людзі, ужо пажылыя, як вартаўнік дзядзька Васіль, і маладзейшыя, як старшыня сельпо Аляксей.

Нарысам «Чалом табе, стараполіца» адкрываецца зборнік, і як тут не прыпомніць назву папярэдняй кніжкі В. Праскурава «Пакланіся зямлі-карміцельцы»?! Такое ўражанне, што не змог аўтар да канца выказаць сваю любоў да роднае «стараполіцы» ў папярэдніх зборніках, вось яе, сыноўняе любові, поўнай мерай хапіла і для «Чорнага хлеба» ды ці на адну яшчэ кніжку хопіць гэтага шчодрага сэрца...

Падзеі, пра якія апавядае нам аўтар, знешне простыя і звычайныя, як кожны дзень вясковага брыгадзіра Івана Паўлавіча Зуйкевіча. Але за гэтай будзённасцю і, на першы погляд, невыразным малюнкам вясковага жыцця — напружаныя, суровыя будні людзей, што кормяць і пояць нас ад веку, вопыт і мудрасць чалавека, які пачынаў працаваць на гэтай стараполасіцы, затым абараняў гэтыя гоні ад ворага, зноў карчаваў, урабляў яе, у душы якога жыве заўсёднае жаданне спыніцца на знаёмым узмежку, скінуць шапку, павітацца ўголас:

«Добры дзень, зямля! Чалом табе, стараполіца».

Ці не на такіх вось знешне непрыкметных у жыцці «дзіваках», як брыгадзір Зуйкевіч, і трымаецца ад веку наша зямля?!

В. Праскураў — мудрая сялянская натура, ад лёгкага поспеху яму не пагражае галавакружэнне, да новага павеву часу, таксама як і да чалавека, будучага героя свайго нарыса, яму трэба ўважліва прыглядзецца, пахадзіць вакол яго, бывае, не год і не два, ды пабачыць яго не толькі ў справе, але і ў сям'і, і на вуліцы...

Прагрэсіўныя тэхналогіі — так, гэта вельмі важна на сённяшні дзень, лічыць нарысіст, але ці толькі аб гэтым трэба гутарыць журналісту са старшынёй або спецыялістамі гаспадаркі?.. Неяк так атрымліваецца, што часта за справай мы апускаем галоўнае, і менавіта гэта сёння хвалюе, напрыклад, знакамітага старшыню калгаса «Аснежыцкі», двойчы Героя Сацыялістычнай Працы І. А. Ралько:

«— Была ў мяне даярка. Слаўная жанчына, працавітая. Ордэнам яе ўзнагародзілі. Дык вось — звольнілася. Уладкавалася гардэробшчыцай у рэстаран. Сустрэліся аднойчы, калі быў па справах у горадзе. Ну, чаго ты, пытаюся, збегла? Што табе тут прыспічыла ў горадзе? А яна ў адказ: «Мне тут хораша — работа лёгкая і грошай хапае. Дык самі ж, кажу, будуем рэстаран, гасцініцу — там і рабіла б дома. Не, крычыць, дома не хачу! А чаму?.. Чаму нашым дзецям падабаецца адно лёгкае? Думаецца мне,— сказаў ён пасля кароткага роздуму,— зашмат агрэхаў нарабілі мы ў выхаванні сваіх нашчадкаў. Так, так, нарабілі. І я, і ты... Не пярэч, ты таксама. Ад каго, як не ад вас, журналістаў, пайшлі такія ўзорныя калгасныя сем'і: бацька і маці ў калгасе, а сын — інжынерам у сталіцы, другі геолагам дзе-небудзь у Сібіры, трэці электравоз водзіць, дачка настаўніцай, другая дачка лабаранткай на вялікім камбінаце. А хлеб расціць каго вы пакінулі? Бацьку ды маці. Кароў хто даіць будзе? Зноў бацька ды маці...»

На гэтай шчымлівай, трывожнай ноце, якая камертонам гучыць на працягу ўсяго зборніка «Чорны хлеб», мне і хочацца скончыць гаворку. «Чорны хлеб» — кніга пра гаспадароў, кніга жывая і паўнакроўная, яна заслужана вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ**

# БАЧЫЦЬ СУЧАСНІКА

Нярэдка ў рэцэнзіях на паэтычныя зборнікі сустракаеш знаёмую раскладку: вось гэты верш — сапраўдная ўдача аўтара, ён парадуе чытача, а вось наступны не вельмі ўдалы, няма ў ім глыбокай думкі, цікавага вобразнага вырашэння. Карыстаючыся такой схемай, і ў кнізе Валянціна Лукшы «Крылаты цэх», пра якую пойдзе наша гаворка, можна адзначыць лепшыя і горшыя радкі. Аднак большасць вершаў у зборніку ўражваюць, запамінаюцца.

**Рукі маці —**
**Знаюць дзеці —**
**Даражэй**
**За ўсё на свеце,**
**Прыгажэй**
**За ўсё на свеце**
**І цяплей**
**За ўсё на свеце...**

Простыя, звычайныя словы, няхітрая рыфма ў вершы «Рукі маці», але ж, чытаючы яго, радасна згаджаешся з аўтарам: але, але, рукі маці цяплей за ўсё на свеце, яны і цяпер цябе саграваюць і падтрымліваюць.

У казках В. Лукшы паўстаюць вобразы і паданні цудоўнага краю, які «назваўся здаўна Белай Руссю». Вытокі гэтых казак — у народным слове, народнай мудрасці. Яны вучаць дзяцей бачыць і разумець дабро і зло, вучаць адвечным маральным каштоўнасцям. Праўда, часам сярод казачных твораў сустракаюцца шматслоўныя, невыразныя па думцы, і таму не прыходзіцца гаварыць пра іх выхаваўчае значэнне. Да іх ліку я аднёс бы казку «Дубок і грыб». Аўтар паспяшаўся ўключыць яе ў зборнік. Разам з тым хацелася б адказаць і на гэткае сур'ёзнае пытанне: ці адпавядае «Крылаты цэх» крытэрыям сучаснай паэзіі, ці можна лічыць гэту кнігу адлюстраваннем агульнага, вечнага, неабходнага, а не толькі прыватнага, часовага, выпадковага (В. Бялінскі)? Без скідак на спецыфіку дзіцячай паэзіі.

Агульнае, вечнае, неабходнае ў кнізе «Крылаты цэх» можна ўбачыць няўзброеным вокам. Яно — у прадвечных маральных каштоўнасцях, вобразная распрацоўка якіх складае аснову многіх вершаў і казак, яно — у барацьбе дабра і зла, перамозе дабра над злом, у абагульненым чалавечым вопыце, які выступае паралельна з індывідуальным вопытам аўтара. Пералікам твораў, насычаных менавіта такім зместам, займацца не варта. Іх у кнізе— большасць. І ўжо таму можна сцвярджаць, што дзіцячая літаратура папоўнілася не аднадзённай, а больш даўгавечнай кнігай.

Кожны пісьменнік, працуючы над творам, павінен помніць простую ісціну: чытач — яго сучаснік. Дзіця, падлетак — таксама сучаснік. Гэта толькі гаворыцца, што дзеці ва ўсе вякі аднолькавыя. Ды не, навукова-тэхнічны прагрэс моцна закрануў і ў многім перайначыў нашых дзяцей. Яны штодня бачаць, чуюць, адчуваюць шмат чаго, што не было вядома і даступна нам. Тэлевізар, радыё, кіно працуюць і на дзяцей — прычым не толькі праз дзіцячыя праграмы і фільмы. Ды ці толькі сродкі інфармацыі ўздзейнічаюць на фарміраванне адметнасці юнага пакалення? Сама рэчаіснасць, навакольны свет, які мяняецца літаральна на вачах, робіць сваю справу.

Я перакананы, што школьнік даваеннага часу не ўспрыняў бы верш В. Лукшы «Крылаты цэх». Справа не толькі ў абрэвіятурах, якімі пазначаны маркі самалётаў, прадпрыемстваў, будоўляў. Справа хутчэй у самой сітуацыі і асацыятыўнай інтэрпрэтацыі гэтай сітуацыі. А вось мой пяцігадовы ўнук, які воляй лёсу апошнім часам зрабіў паветраныя рэйсы з Мінска на Сахалін і з Сахаліна ў Мінск, патоўкся з бацькамі ў аэрапортах і на аэрадромах, пачуўшы верш адзін раз, потым не даваў спакою некалькі вечароў: прачытай яму «Крылаты цэх».

Дзіцячаму пісьменніку размаўляць са сваім сучаснікам куды складаней, чым аўтару, які піша для дарослай аўдыторыі. Кругагляд дарослага вызначаецца пераважна на ўласным пісьменніцкім вопыце: ён павінен быць такі, як і я. А дзіця? У якой прасторы яно жыве? Якое яго светаўспрыманне? Дзе асяродак унутраных канфліктаў, якія разам са знешнім уздзеяннем фарміруюць юную асобу? Колькі іх, складаных пытанняў, на якія дзіцячы пісьменнік павінен знайсці адказы, перш чым схіліцца над сталом за аркушам чыстай паперы. І часта знайсці самастойна, здабыць адказы праз уласны назапашаны вопыт. В. Лукша імкнецца разабрацца ў псіхалогіі сучаснага юнага чытача. У адных яго вершах гэта адчуваецца больш выразна, у другіх— менш. Аднак такое імкненне нельга не вітаць.

**Барыс СТРАЛЬЦОЎ**

**ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ**

# У МУЗЫЦЫ–ЖЫЦЦЁ

**Святлынь добрай душы; горкі одум; бязлітасны адчай; шчырая летуценнасць; вытанчаны гумар; паўната шчаслівай хвіліны... Якой неадназначнай бывае сапраўдная музыка! Не можа быць адназначнаю творчасць кампазітара, якога цікавіць свет, а ў ім — чалавек, мастак.**

**Зрэшты, пра багаты творчы свет народнага артыста Савецкага Саюза Яўгена Глебава, чый аўтарскі канцэрт адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, сказана і напісана ўжо нямала. І — можна зноў паўтарыць — ніхто не сказаў і не скажа пра кампазітара лепш, чым ягоная музыка. Цяжка перадаць словам устрывожанасць і міралюбівы пафас V сімфоніі «Да Свету», драматычныя канфлікты III сімфоніі для аркестра і саліруючага фартэпіяна, празрыстасць, крохкасць і ў той жа час вобразную ёмістасць, «сцэнічную асязальнасць» музыкі балета «Маленькі прынц» (у канцэрце прагучалі фрагменты).**

**Канцэрт рыхтавалі Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, галоўны дырыжор Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР народны артыст РСФСР Г. Праватораў, піяніст Ю. Гільдзюк. А выкананне ўрыўкаў з музычнай камедыі Я. Глебава «Мельянерка» сталася сюрпрызам для слухачоў. Твор, як вядома, пастаўлены Маскоўскім дзяржаўным тэатрам аперэты, рыхтуецца прэм'ера і ў Мінску. Музыка беларускага кампазітара дапамагла наладзіць своеасаблівы творчы кантакт двум вядучым салістам гэтых тэатраў — народнай артыстцы БССР Н. Гайдзе і народнаму артысту РСФСР Г. Васільеву. У аўтарскім канцэрце Я. Глебава яны ўвасобілі вобразы Эпіфаніі і ўрача, выканалі сольныя фрагменты і заключны дуэт герояў «Мільянеркі».**

**Добра вядомыя староні музыкі Я. Глебава ажылі ў гэты вечар дзякуючы самаадданасці Г. Праваторава, які мала сказаць захоплена — «неистово» дырыжыраваў аркестрам. Быццам запрашаў усіх разам — і музыкантаў, і слухачоў — падзівіцца майстэрству кампазітара-сімфаніста.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



Кветкі — народнаму артысту СССР Я. Глебаву.

Фота Ул. КРУКА

# Я-БАДЫЛЬ!

**П'еса К. Крапівы «ПАРТЫЗАНЫ» і маладагвардзейцы Астрашыцкага Гарадка**

ПАЧАТАК лета 1943 года. З баямі выйшлі з блакады. Патрэбна ўзнаўляць парушаныя агентурныя сувязі. Сядлаю каня, еду ў вёску Мятлічына. Нечакана сустракаю знаёмага чалавека з Брадка Івана Пятровіча Гляддку. Ведаю, што ён сувязны другога атрада, напэўна, і накіроўваецца на сустрэчу, часта ходзіць у Астрашыцкі Гарадок (недалёка: нейкія тры кіламетры ад Брадка), заданні яму даюць суседзі, а калі ёсць якія навіны, скажа і мне.

І сапраўды: пазнаўшы мяне, Іван Пятровіч подбегам (я сабе падсвядома адзначаю: нешта ёсць, звычайна ён ходзіць няспешна) у мой бок і, не прывітаўшыся, усхвалявана:

— Злавілі Колю Бароўскага...

— Як — злавілі? Ён жа ў атрадзе...

— Злавілі. Я быў у Гарадку, і з людзьмі гаварыў і сам бачыў. Колю з двума разведчыкамі паслалі пад Бяларучы, а там была паліцэйская засада. Ён першым ішоў, заўважыў, паспеў крыкнуць: «Уцякайце!» Было позна: іх тут жа забілі. Коля залёг, адстрэльваўся, апошні патрон для сябе бярог, але здарылася асечка, і яго схапілі. Прывезлі ў Гарадок, дапрошвалі, білі, а потым вадзілі па цэнтральнай вуліцы і патрабавалі, каб ён гаварыў пра сябе «Я — бандыт»...

(У вачах маіх цемра, балюча заныла сэрца, я не перапытваю, слухаю).

— На грудзі яму дошку павесілі, на ёй напісана «Я — бандыт», спераду рукі калючым дротам звязаны і на дроце школьны званок. Па баках і ззаду паліцаі.

(У школе ад пачатку акупацыі казарма. Як ён захаваўся, той званок?).

— Я ішоў за гэтай працэсіяй ад плошчы. Каля аптэкі паліцаі сталі загадваць: «Гавары: «Я — бандыт!». І ён спачатку тры разы, павольна ідучы, крыкнуў, але неяк неразборліва: «Я — Бадыль!»

(Як пробліск маланкі, раптоўная здагадка: Бадыль!!! Гэта ж каб зразумелі яго сябры-падпольшчыкі, удзельнікі спектакля «Партызаны», які мы школай ставілі за паўгода да вайны, што ён, Коля, нічога не сказаў ворагам, быў мужным і стойкім, як дзед Бадыль, ролю якога ён іграў).

Іван Пятровіч працягвае:

— Паліцаі крычаць: «Гавары разборліва: «Я — бандыт. Страляў у нямецкіх салдат». А Коля зноў: «Я — Бадыль!»

(Так, паліцаі не разумелі, на гэта і разлічваў Коля).

— А яны: «А ну, разборліва! Давай: «Я — бандыт, страляў у нямецкіх салдат». Коля чуць прыпыніўся і раптам сказаў так: «Бандыты вы, а не я. Я — Бадыль, партызан, страляў у фашысцкіх сабак!» Людзі, а іх было многа на тратуарах, аж уздрыгнулі. Паліцэйскія сталі Колю біць. Здраднік Франц Красоўскі кінуўся да яго з кулакамі, хацеў здзерці з яго плеч скураную куртку, ды не змог: у Колі ж рукі былі звязаны. Такія набраклыя, пасінелыя, акрываўленыя рукі. Яго штурхнулі прыкладам у спіну, ён прабег два крокі і паваліўся на брук, але твар не разбіў, на рукі паваліўся. І было прыкметна, што яму баліць: калючкі ж упіліся ў рукі, але ён нават не застагнаў, толькі званок жаласна зазвінеў...

Мы нейкі час маўчым. Жудасны малюнак стаіць перад вачыма.

Але я павінна ўдакладніць, упэўніцца.

— Іван Пятровіч! Ці бачылі вы ў натоўпе каго-небудзь з маладых? Вы ж многіх ведаеце ў Гарадку: і бацькоў і дзяцей іхніх.

— Бачыў у натоўпе дачок Стафановіча, Стосуя, Урубеля, Аркашку Кручонка і другіх — не ведаю іх прозвішчаў.

Я думаю: Тоня Стафановіч — Настуля, Люба Урубель — пані Яндрыхоўская, Аркаша Кручонак — Маргун, Ніна Стосуй — усе яны падпольшчыкі і сувязныя. Гэта ім Коля даваў знаць. А яны і так бязмежна верылі яму: ніхто з паланенем-арыштам Колі не пакінуў Гарадок, знаў, што Коля не выдасць. Смела выйшлі і на гэту апошнюю развітальную сустрэчу з дарагім таварышам у такі трудны і горкі для яго час...

Не помню, як развіталася з чалавекам. Ад'ехала далей, у лес, саскочыла на зямлю і тварам у мох. І слёзы, такія недарэчныя сярод сяброў-партызан, якія прывыклі да небяспекі і смерці, несутрымна бруілі з вачэй... І вярталася думкай у той шчаслівы час, калі пасля заканчэння педінстытута імя Горкага ў свае 19 гадоў прыехала выкладчыцай мовы і літаратуры ў родную школу Астрашыцкага Гарадка. Былі боязь і сумненні. Да паступлення ў інстытут была я піянерважатай. Мае піянеры — цяпер мае вучні 8—10 класаў. Ці прызнаюць мяне як настаўніцу? Прызналі. І вельмі скора без маіх заўваг сталі звяртацца да мяне на вы і па бацьку...

9 клас. П'еса Кандрата Крапівы «Партызаны». Рашыла: не буду задаваць яе чытаць па актах самім, не буду характарызаваць вобразы. Я прачытаю яе ім у класе, усю, на розныя галасы. Героі самі сябе пакажуць. І вось наступіў той урок. Чытаю. Празвінеў званок, крычаць:

— Чытайце далей! Не трэба нам перапынак.

Але ж зараз па раскладзе ўрок другога настаўніка, і я гавару:

— Добра. П'есу дачытаем сёння...

— Ура-а-а!

— Пасля ўрокаў. Больш таго: мы паставім яе, і вы будзеце іграць, як у сапраўдным тэатры, без суфлёра, кожную мізансцэну адрэпеціруем, масавыя сцэны...

— Уга-а! Як у тэатры. Слабо-о-о...

— Як гэта — без суфлёра? Такую вялікую п'есу?

— А што такое — мізансцэна?

— Пасля ўрокаў!

Пасля ўрокаў засталіся ўсе дзевяцікласнікі, нават тыя, якія хадзілі ў школу з навакольных вёсак. Прыйшлі і многія вучні 8 і 10 класаў. І школьны конюх Коля Бароўскі са сваім другам Паўлікам Бацяноўскім — трынаццацігадовыя шасцікласнікі. П'еса прачытана. Напружаная цішыня. І раптам нехта:

— Вось гэта п'еса!

— І мы паставім яе. Калі будзеце добра працаваць — да Кастрычніцкіх свят. Ролі перапішаце і вывучыце за тыдзень. Размяркуем заўтра. Я буду думаць, і вы прыкіньце, хто на якую ролю больш здатны.

Назаўтра размяркоўвалі ролі.

— Ну, а можа, хто з вас сам аблюбаваў сабе ролю?

Маўчаць, не рашаюцца. Раптам устае худзенькі, маларослы (адно вока пашкоджана) Аркаша Кручонак і гаворыць:

— Я хачу іграць кулака Маргуна...

Усе смяюцца: уяўляюць жа гада-кулака, ворага, мажным, пузатым, бязлітасным, а тут смяшлівы, бяскрыўдны (вераб'я не спужае) Аркаша. А я падумала: а што, можа атрымаецца.

— Не смейцеся. Давайце прыкінем. Бываюць нізкарослыя ворагі? Бываюць. Пуза Аркашу аформім, можна і горб невялікі. Дыкцыя ў яго добрая, а што голас зараз ламаецца, дык і для ролі добра: раптам у злосці піскляваць. Смяшней будзе.

І зараз мне здаецца, што лепшага выканаўца гэтай ролі я не ўбачыла.

На ролю Настулі знешне вельмі падыходзіла Ніна Стосуй: русавалосая, шэравокая, стройненькая (Ніна была выдатнай спартсменкай), пяшчотная і гордая, спявала, але... стрыжка пад хлапчука, танцаваць не ўмее, жэсты рэзкія, вуглаватыя. Памеркавалі і рашылі, што Ніна спяе ў масавай сцэне, а стрыжку сваю схавае пад хусткай, завяжа пад бараду. І ролю Настулі аддалі камсоргу школы, выдатніцы ад першага класа Тоні Стафановіч. Праўда, паспрачаліся: па-першае, Тоня брунетка, па-другое, высокая, ды, мабыць, будзе вышэй і ямчэй за свайго дзеда. Але ўрэшце пагадзіліся: былі і ёсць і цёмнакосыя, чарнавокія, круглатварыя прыгожыя беларускія дзяўчаты. Ну, а калі ямчэй дзеда Бадыля, дык яна ж у самым росквіце, а дзед і згорбіўся, і ўсох трохі...

З пані Яндрыхоўскай было асабліва складана: тут трэба і фанабэрыстасць, і здзеклівасць, і панская грэблівасць, і нейкі пэўны шык. Аддалі Любе Урубель, аднакласніцы Тоні, таксама выдатніцы, вельмі прыгожай дзяўчынцы: свежы авальны тварык з ружовасцю на шчоках, тоўстыя светла-жоўтыя косы, сімпатычныя рэдкія вяснушкі.

— Ці здолееш, Люба?

— Я ненавіджу пані і пастараюся, каб яе ўзненавідзелі гледачы. — І раптам паважна, ганарліва выходзіць на клас і гаворыць: — Слухайце, быдла! (З такой грэблівасцю, пыхай, уладнасцю, у вачах халодны бляск). Я кабета. (Па-жаноцку, з нейкай цнатлівасцю, але з адценнем самалюбавання). Я маю ў сабе сэрца і маю ў сэрцы бога... (Тут Люба няўмела хрысціцца. І — новыя інтанацыі, у якіх і адценне шчырасці — пані ж верыць, што яна «літасцівая», — і ханжаскі фальш)...

І якая пані была! А грым: і мудрагелістую прычоску вылажылі, і валасы падсівілі, і маршчыны падмалявалі...

Чыткі закончаны. Ролі вывучаны. Ідуць рэпетыцыі. Але... на ролю дзеда Бадыля пакуль нікога няма. Рэплікі за яго падаю я.

На рэпетыцыі дазволілі прыходзіць усім жадаючым. Мае акцёры спачатку не згаджаліся, але іх удалося пераканаць: няхай лепш будуць з намі, і п'есу асвояць, і падвучацца, лягчэй будзе з іх каго потым ва ўдзельнікі браць. Закон для «гледачоў»: «Анямець і каб ні гуку. А то выставім за дзверы». І «закон» не парушалі, толькі, бывала, па ходзе п'есы заапладзіруюць, але гэта «акцёрам» нават падабалася.

Састаў гледачоў мяняўся, і толькі сябры-шасцікласнікі Коля і Паўлік нязменна былі з намі. І вось аднойчы, калі я павінна была сказаць словы дзеда Бадыля, мяне апярэдзілі:

— Сам, сынку, варонай не будзь, дык і сарока не падвядзе.

І так па-старэчаму, трохі з'едліва, з хітрынкай, што ўсе на момант здзіўлена сумеліся, а потым дружна зарагаталі.

— Ды гэта ж Колька Бароўскі.

І тут жа без ваганняў аднагалосна прызналі: Бадыль ёсць. А я думаю: Бадыль, на шчасце, знайшоўся, але цяпер трэба даць ролю і Паўліку. Коля і Паўлік дружаць змалку. Знешне непадобныя. Коля — русавалосы, акруглы свежы ружовы твар, шэрыя, трохі выпуклыя з вясёлай смяшынкай вочы, прамы таўставаты нос, прыпухлыя вусны. Рухавы і гаваркі. Паўлік — шырэйшы ў плячах, як кажуць, моцна збіты хлапчук, вузейшыя з цёмна-жоўтым водбліскам вочы сядзяць глыбока, твар к падбародку звужаецца, валасы рыжаватыя, вяснушкі, голас глухаваты. Разважлівы і негаваркі. Так, Паўліку ролю трэба даць. І тут высвятляецца, што хлопчык, прызначаны на ролю начдыва, захварэў. Аддаю Паўліку. Думаю: роля адказная, але невялікая, аднапланавая, дзе накірую, дзе вымуштрую. І на сцэне «начдыў» быў што трэба: у скуранцы, аплечаны партупеяй, з планшэтам, з кабурой, а галоўнае — такі сталы, разважлівы, валявы, упэўнены, і яго глухаваты голас быў дарэчы.

6 лістапада 1940 года клуб перапоўнены: сельсавецкае начальства, настаўнікі, бацькі, прадстаўнікі ад устаноў і ўсіх навакольных калгасаў. Пасля ўрачыстай часткі — спектакль. Артысты хвалююцца, але іграюць натхнёна, зладжана, выразна чуваць маналогі і дыялогі, ніхто не блытае слоў. У зале то насцярожаная цішыня, то смех. Кожная рэпліка Бадыля — Колі — выклікае іменна тую рэакцыю, на якую разлічана. Колю, Любу, Паўліка не пазнаюць. Некаторыя гледачы наогул рашылі, што школа запрасіла некалькі артыстаў з тэатра.

Доўга не сціхалі апладысменты. А старшыня калгаса «Зара» Апанас Апанасавіч Навіцкі падняўся на сцэну і, звяртаючыся да ўдзельнікаў, якія цяпер без грыму, шчаслівыя поспехам стаялі перад гледачамі і, пакланіўшыся, апладзіравалі разам з імі, сказаў:

— Вялікі вам дзякуй, вучні, за вашу ігру. А ты, Коля, вучыся. Вялікі талент маеш. Гэта як божы дар. Вучыся! Вельмі нам усім спадабаўся дзед Бадыль...

Літаратурна - драматычны гурток стаў дружным калектывам. Поспех акрыліў. Праз два тыдні паўтараем спектакль. На аб'яве: «Уваход па білетах. Цана 50 кап.». Сумняваліся: ці пойдуць... «па білетах»? Вечарам у клубе цесната. Збор — 150 рублёў. Рашылі да Новага года падрыхтаваць камедыю Мальера. На выручаныя за «Партызан» грошы возьмем напракат у Беларускім тэатры ў Мінску адпаведныя касцюмы.

30 снежня 1940 года ў клубе поўна людзей, хоць спектакль платны. Артысты ў маляўнічых касцюмах. Рэплікі, жэсты, учынкі знаходлівага «лекара» Колі выклікаюць у гледачоў усплёскі гучнага смеху. Удзельнікі спектакля папярэджаны: не спяшацца гаварыць свае словы, знаходзіць жэст, занятак, чакаць, пакуль высмяюцца. Пасля першага акта выклікаюць Колю. Я падказала яму: «Выйдзі, пакланіся, а пасля — толькі сур'ёзна і шчыра — скажы так: «Паважаныя таварышы! Напярэдадні Новага года добра весела пасмяяцца, але просім вас: смяяцца цішэй і нядоўга, бо не пачуеце новых смешных слоў. Смешнага ўперадзе нямала». І ён сказаў з такім гумарам і такой павагай, так проста і праніклівa, што яго паслухалі, пацішэлі, хоць смеху ўсё роўна было многа. Збор 200 рублёў. Перадаём школе: можна дапамагчы бяднейшым вучням, каму чаравікі купіць, каму якую адзежыну.

1 мая 1941 года паўтарылі «Партызан». На афішах пасля першага разу пісалі: «У галоўнай ролі вучань 6 класа піянер Мікалай Бароўскі». І зноў у клубе яблыку не ўпасці: старшыні калгасаў прывозілі калгаснікаў на машынах, на падводах, бедавалі, што не было магчымасці ўзяць на спектакль усіх жадаючых.

Да выпускнога вечара рыхтавалі п'есу Кандрата Крапівы «Канец дружбы». Выступленне не адбылося. Хто мог думаць, што спектакль «Партызаны» для маіх вучняў — прарочы, што ў ім яны іграюць самі сябе, што амаль усе артысты скора стануць сапраўднымі партызанамі?

...Коля рос без бацькі. У шосты клас хадзіў у латаных

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ» № 10

**Нумар, прысвечаны творчасці моладзі, адкрываецца рэдакцыйным артыкулам «Дастойна несці эстафету ідэалаў».**

**Аб праблемах маладых — тэма гутаркі за «круглым сталом» часопіса — «Маладыя творцы. Хто яны?..»**

**Н. Значонак даследуе вольны час вясковай моладзі — «Побыт, адпачынак і работа клубаў».**

**Роздум пасля прэм'еры аперэты «Вольны вецер» І. Дунаеўскага ў Дзяржаўным тэатры музкамедыі БССР змяшчае З. Шагаловіч — «Пра вецер, вольнасці і падводныя рыфы».**

**Г. Ратнікаў рэцэнзуе фільм В. Рыбарава «Сведка» — «Два жыцці Кольні Лецечкі».**

**Праблемы навучання ў музычных школах і асвятленне пытанняў мастацтва на старонках маладзёжных газет і часопісаў разглядаюць Ю. Златкоўскі, Б. Спектар («Пад «коламі» тэхнікі») і В. Ракопцава («Крылы ўзлёту — аналітычнасць і публіцыстычнасць»).**

**Інтэрв'ю з творчай моладдзю тэатраў рэспублікі друкуе Ж. Лашкевіч — «Парадокс пра маладога акцёра».**

**А. Бялецкая разглядае работу беларускага рэжысёра-мультыплікатара Н. Лось — «Дэбют пасля «Дэбюта».**

**Пра творчасць мастака В. Тоўсціка разважае Т. Бондар — «Жывём у часе запытальным».**

**У. Жгунабудскі («Талент шчодры, шматгранны»), А. Касінец («Імкненне да шчырага дыялога»), У. Ягоўдзік («Пад ветразем пошуку»), А. Міхайловіч («Пераемнасць») — пішуць пра творчасць маладых мастакоў У. Крываблоцкага, В. Юркова, М. Маеўскага і А. Ґваздзікава.**

**Пра беларускіх выхаванцаў майстэрні А. Баталава ва УДІК (Усесаюзным дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі) расказвае А. Сільвановіч — «Баталаўцы, на выхад!..»**

**А. Фурс прадстаўляе батлейку вёскі Залессе Смаргонскага раёна — «Сёння нам пакажуць батлейку...».**

**Нататкі Г. Сачанкі пра мастацка-спартыўнае свята «Мінск-86» — «Свята горада».**

**В. Ціхановіч («Жывыя вобразы прыроды») даследуе беларускую мастацкую вышыванку, а П. Змітровіч («Тварам у твар») аналізуе работу фотарэпарцёра У. Шубы.**

**Друкуюцца рэцэнзіі, «Старонкі календара» і «Хроніка мастацкага жыцця».**

картовых штоніках і куртачны, з якіх даўно вырас. Вучыўся старанна. Усе, хто ведаў Колю: суседзі, вучні, настаўнікі, — любілі хлапчука. Нeяк нішто благое да яго не прыставала: курыць не спрабаваў, слоў брыдкіх цураўся, не мог зманіць. Быў рознабакова адораны: і маляваў няблага, і спяваў, на балалайцы, гітары здорава іграў.

Школа мела каня, а конюха не было: за малую зарплату ніхто з дарослых не згаджаўся, а ў заўгаса Сая абавязкаў хапала, ды і жыў ён за тры кіламетры ад школы. Завуч школы Кірыла Іванавіч Шастакоў заўважыў, што Коля часта круціцца каля каня, нечым частуе, нешта гаворыць. Неўзабаве падслухаў: «Ну, здароў, сіўкабурка, бедная кавурка! Саевай пугі каштаваў? Ну, нічога. Вот і друг да цябе прыйшоў. На, пасмакуй скарыначку. Што? Яшчэ хочаш? Няма, братка, заўтра прынясу...»

І Колю афармілі конюхам. Работы не так многа, вучыцца можна, а вечарам — у драмгуртку. А маме якая помач — 60 рублёў. Пасля першай палучкі яна здолела прыадзець хлопчыка. Каню ж такі догляд і не сніўся. З загадчыкам гаспадаркі Саем сваркі: Коля не дае лішняга нагружаць. Касіць навучыўся, каб Сіўку-Кавурку свежая травіца была. І скрабе яго, і купае ў возеры. Едзе Коля на кані да возера (якое свята для абодвух!) і пяе:

**Гэй, з дарогі, гусі, дзеці!**
**На рысаку Коля едзе,**
**На сваім Кавурачку**
**Імчыць па перавулачку!..**

Людзі пазнаюць, смяюцца, святлеюць, жартуюць...

Пачалася вайна. І амаль усе члены нашага літаратурна-драматычнага гуртка сталі падпольшчыкамі. Поруч са старэйшымі — піянеры Коля і Паўлік. Арганізацыя сфарміравалася ў першыя ж дні акупацыі і адразу пачала дзейнічаць. Дапамагалі параненым савецкім салдатам, якія выходзілі з акружэння: у раёне Астрашыцкага Гарадка геранчна змагаліся з варожымі часцямі байцы 100-й дывізіі. Збіралі і хавалі зброю, распаўсюджвалі лістоўкі. Падпольныя ячэйкі, у якія ўваходзілі нашы былыя вучні, паявіліся ў вёсках Галіца, Тхарніца, Зыкава, Брадок. Устанавілі сувязь з партызанамі і перадавалі ім зброю, перапраўлялі ў атрады палонных, выконвалі даручэнні па збору патрэбнай інфармацыі.

Колю ўладкавалі да вясковага пастуха падпаскам, што давала яму магчымасць прыхоўваць у лесе зброю, не выклікаючы падазрэнняў, выходзіць за межы Гарадка.

У жніўні 1941 года Паўлік і Коля адбудавалі ў шчэнінскім лесе добра замаскіраваную зямлянку ( і зброю туды зносілі, і чалавека можна было схаваць. І хавалі. Двое французаў, якія не хацелі ваяваць у гітлераўскай арміі, сядзелі ў сховішчы некалькі дзён, пакуль удалося пераправіць іх у атрад).

Кастрычнік 1941 года. У разбуранай раўбіцкай царкве хаваюцца яўрэі. Ноччу, калі паліцаі акружылі гета, юнакі аблілі газай матрац і падпалілі. Гэта быў умоўны знак: уцякай хто можа! Некаторым праз прылягаючыя да гета двары і агароды гэта ўдалося. Трэба перадаць ім і яду, і вопратку, і сякія-такія дакументы. Паслалі Колю і Паўліка. Ідуць яны лесам. Коля пяе прыпеўку з «Партызан», перайначваючы яе адпаведна часу:

**Былі куры у Батуры,**
**Ды фрыцы паелі.**
**Каб яны павыдыхалі**
**Да гэтай нядзелі.**

Позняя восень. Каровы ў хлявах. Раім Колю, Паўліку, Аркадзю безадказна выходзіць па загаду акупантаў на дарогу: лічыць машыны з тэхнікай і фашыстамі, якія накіроўваюцца на фронт.

Неўзабаве акупанты адкрылі ў клубе майстэрню па рамонце аўтамашын, матацыклаў і зброі. Там працавалі і некаторыя мясцовыя жыхары, і некалькі нашых ваеннапалонных. Трэба было праверыць, што за яны і, калі вартыя, дапамагчы пайсці ў партызаны. Каму старэйшаму — рызыкоўна. А Коля — хлапчук.

Распрацавалі план. Коля вельмі скора ўвойдзе ў давер, наладжваючы работнікам майстэрні спектаклі. Трэба тут сказаць, што ўсе п'есы, якія мы ставілі, Коля ведаў на памяць да апошняга слова. І не толькі гэта: ён умеў таленавіта пераўвасабляцца ў ролі сваіх таварышаў, нават жаночыя. Няхай пачынае з Мальеравага «Лекара». Потым асцярожна выдасць «Партызан»... І Коля — выдаў. «Вось так. Я быў Бадылём. А вы кім? А сталі пасобнікамі. Канечне ж, не Халімоны, а ахламоны»,— падагульняе Коля.

Палонныя Аляксандр Кістроўскі і Іван Тулупаў злаваліся:

— Ну ты, пацан! Разумны вельмі! Дзе там тыя Халімоны? Можа, ты ведаеш?

А Коля — песню:

**Кто весел, тот смеется,**
**Кто хочет, тот добьется,**
**Кто ищет, тот всегда найдет.**

Праз некаторы час Коля далажыў у атрад: клююць. Яму сказалі: «Перадай, што прымем іх у атрад, калі прыедуць на нямецкай аўтамашыне, якую водзіць адзін з іх, нагрузіўшы яе зброяй. Прыедзеш з імі і ты. Толькі загадзя выправі ў нашу зону маці і сястру».

У нядзелю, калі рабочых і начальства не было, з'явіліся да вартавога-немца ваеннапалонныя Аляксандр Кістроўскі і Іван Тулупаў і сказалі яму, што паедуць на возера мыць машыну (яна напярэдадні была нагружана зброяй, верх крыты, не відаць). Мыць яе на возера шафёры ганялі не раз, і вартавы не вагаючыся, расчыніў браму, правяраць не стаў. Хлопцы далі газу, праскочылі мястэчка і падхапілі каля могілак Колю...

Мы былі з імі ў розных атрадах, але ад сяброў я ведала, што ён стаў выдатным партызанам. Яго любілі і ў атрадзе, ён быў добрым і надзейным разведчыкам. А ў вольны час усе зямлянкі стараліся ім заваладаць: Коля разыгрываў *«Партызан»*.

Станоўчыя героі п'есы і выканаўца іх роляў таленавіты і мужны юнак былі для народных мсціўцаў узорам свядомай высакароднай і сціплай мужнасці.

А восенню 1943 года прыйшла вестка, што Колі Бароўскага ўжо няма ў жывых. Яго пераправілі ў мінскую турму, а потым завезлі ў Трасцянец, у лагер смерці. Так загінуў пятнаццацігадовы герой...

А Паўлік усё хадзіў на сустрэчы з разведчыкамі-партызанамі, выконваў іх заданні, і прасіўся, прасіўся ў атрад. Сваю адказную і вельмі небяспечную работу сувязнога ён ніяк не хацеў усвядоміць як нешта вельмі важнае і неабходнае для перамогі над фашыстамі. Дарэчы, такое стаўленне да гэтай работы было ўласціва ўсім маладым удзельнікам падпольнай барацьбы. Вось з вінтоўкай, аўтаматам, гранатай у адкрытым баі смела знішчаць акупантаў — гэта гераізм... Летам 1943 года Паўлік дамогся свайго. Яму даручылі ўступіць у паліцыю, атрымаць зброю і, забіўшы найбольш азвярэлага здрадніка, ісці ў атрад. Паўлік забіў двух. Пасля нядоўга было яму суджана ваяваць з вінтоўкай у руках: у адным з баёў з фашыстамі загінуў наш «начдыў». А камсамольскае падполле ў Гарадку працягвала дзейнічаць. У 1943 годзе ўсе яны — сувязныя розных атрадаў Лагойшчыны.

У чэрвені 1943 года Ніне Стосуй ад нашага атрада даручана было вельмі небяспечнае заданне. Яе бацька і дзядзькі працавалі на лесазаводзе. Спачатку лесазавод знаходзіўся за 3 кіламетры ад гарнізона, каля вёскі Селішча. Фашысты і паліцаі асцерагаліся вартаваць, і партызаны тры разы ўзрывалі яго. А фашыстам завод быў вельмі патрэбны, і яны перавезлі яго ў пасёлак, у Астрашыцкі Гарадок. Важна было вывесці яго са строю. Ніна далажыла, што прынесці на завод і падлажыць пад кацёл магнітную міну ёй няцяжка: на завод пускаюць пасля работы рабочых браць пілавінне. Але як уберагчы Ніну ад падазрэнняў? Прыдумалі: яна падкіне надрукаванае ў нас у атрадзе пісьмо, дзе будзе сказана, што калі б нават фашысты перавезлі завод на неба, партызаны б і там узарвалі яго, і што партызаны ганьбуюць паводзіны савецкіх людзей, такіх, як механік Стосуй і яго сям'я, за іх работу на фашыстаў. Ніна заданне выканала. Яна недалёка паспела адысці ад завода, калі грымнуў выбух. Фашысты і паліцаі ў паніцы, у самім Гарадку партызаны. Некаторы час баяліся падступіцца да завода: а раптам грымне яшчэ? Западозрылі і кінуліся даганяць нейкую аўтамашыну. Дагналі— а там важны фашысцкі чын. Лаяўся, пагражаў. Знайшлі непашкоджанае пісьмо. Ніякіх падазрэнняў на Ніну тады не ўзнікла...

У параўнальна невялікім пасёлку, дзе ўсе ведаюць адзін аднаго, цяжка, нават немагчыма дабіцца поўнай канспірацыі. Усе, хто мог, пакрысе ішлі ў партызанскія атрады. А многія не маглі: баяліся за лёс блізкіх. Першымі з нашых актыўных падпольшчыкаў паліцэйскія арыштавалі Жэню Яцука (Даніла Дрыль) і інжынера Юрыя Якуніна. Іх дапытвалі ў Гарадку, потым у Мінску ў СД. Доказаў іх сувязей з партызанамі не было, самі яны мужна вытрымалі здзекі і пабоі, нікога не назвалі, ні ў чым не прызналіся, і іх з турмы адправілі на катаргу ў Германію, на ваенны завод. Нямала і там шкодзілі мужныя хлопцы. Выжылі, пасля Перамогі вярнуліся, але здароўе страцілі.

Арыштоўваліся Люба Урубель і Тоня Стафановіч, вынеслі здзекі, пабоі і таксама нічога не сказалі ворагам. Бацьку Тоні (яго фашысты паставілі бургамістрам і нават узнагародзілі) удалося іх вызваліць. Працавалі адчайна смела, і Адам Стафановіч, як мог, дапамагаў ім здабываць звесткі, дакументы. Папярэджвалі іх: асцеражней, у другі раз і бургамістр не дапаможа. Не паслухалі...

Падполле пратрымалася амаль да самага вызвалення. Моладзь жыла ўжо радасным чаканнем яго, калі здарылася бяда. Былі арыштаваны адзін з кіраўнікоў падполля завуч Кірыла Іванавіч Шастакоў, камсамольцы Тоня Стафановіч, Люба Урубель, Ніна Стосуй, Аркадзь Кручонак, Вера Хаткоўская, Рая Святлова, Люба Макейчык, Галя Пракоф'ева. Катаванні, турма, Трасцянец...

Прайшлі гады. Подзвіг патрыётаў не забыты. У Астрашыцкім Гарадку свята берагуць памяць аб загінуўшых.

Магло не быць рэпетыцый і спектакля па п'есе «Партызаны», і яны, безумоўна, усё роўна не засталіся б у баку ад барацьбы. Так была выхавана яна, наша слаўная савецкая моладзь. Але тое, што арганізацыя была створана адразу і ў яе ўвайшлі ўдзельнікі «Партызан», што ніхто з іх не застаўся пасіўным і не здрадзіў, што самы юны з іх у час пакутнага выпрабавання горда гаварыў у натоўп і ворагам «Я—Бадыль, партызан, страляў у фашысцкіх сабак», што героі п'есы ядналі і дапамагалі змагацца партызанам Вялікай Айчыннай, -- сведчанне вялікай ідэйнай і мастацкай сілы твора народнага пісьменніка, цікавая старонка ў гісторыі нашай літаратуры,

**Л. КАРОТКАЯ,**
**былая падпольшчыца**
**і партызанка, дацэнт**
**БДУ імя У. І. Леніна**

## ГАЛАСЫ СЯБРОЎ

**Вялікія паэтычныя святы на Беларусі рэдка абыходзяцца без удзелу Івана Драча. Яго пісьменніцкія і чалавечыя сувязі з нашай рэспублікай з кожным годам паглыбляюцца. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет зборнік паэзіі Івана Драча ў перакладзе на беларускую мову — «Мелодыя каліны».**

**Літаратурная грамадскасць Украіны адсвяткавала нядаўна 50-гадовы юбілей вядомага паэта. З гэтай нагоды штотыднёвік змяшчае новыя пераклады вершаў Івана Драча.**

### Іван ДРАЧ



### *Дума пра настаўніка*

**УРЫВАК З ПАЭМЫ**

Баляць у школы аб наступным
грудзі,—
Хай свеціцца заўжды яе парог.
Настаўнікі, святыя нашы людзі,
Рыхтуюць старт для ўсіх крутых
дарог.

Не толькі кнігі — наша моц
і сіла.
Даўно мы зразумелі пакрысе,
Што непаўторнасць наша,
як расіна,
Ашчадна сонца ў кропельцы
нясе.

Настаўнік песціць будучыя
лёсы,
Уласным саграваючы цяплом
Хлапцоў малых, дзяўчынак
светлакосых,
Што праз гады азораць свет
святлом.

Нясе ім свет з законамі
наступнымі.
Ён, педагог, для іх як эталон.
Ён пальцамі пяшчотнымі
і рупнымі
Галубіць непаўторны іхні плён.

З'імправізуй ім свой сакрэт
і верад,
Глядзіць з надзеяй цэлы свет
на іх.
На дзесяць, на пятнаццаць год
наперад
Заведзены гадзіннік маладых.

Як птушаня, іх неспакой
бяссонны.
Дай зерня падзяўбці яму
штодня.
Ў карэньчыках пазнай густыя
кроны
І стане іхнім домам вышыня.

Настаўнікі, святыя нашы людзі,
Рыхтуюць нас для будучых
дарог.
Баляць у школы аб наступным
грудзі —
Хай свеціцца заўжды яе парог!

Пераклаў У. СКАРЫНКІН

### *Балада любові*

Зямля мая! Ты з попелу.
Стагоддзі
Той попел вытрасалі з рукава.
О колькі ты, агонь, сюды
прыходзіў!
І плакала зямля, як удава.

Зямля мая, ты з крэменю.
Стагоддзі
Загартавалі сэрцы у агні.
Але не спапялёныя ўзыходзяць
Славянскае культуры карані.

О Бацькаўшчына! Боль мая
і радасць.
Разрыў-трава скрозь продкаў
прарасла.
І тых, хто сваё сэрца зганьбіў
здрадай,
Знаходзіць помсты вострая
страла.

Мы творым свет, вырошчваем
зярняты,
Узводзім хутка домны
да нябёс.
Народ мой! У крыві маёй
зацята
Клякоча голас твой, твой
слаўны лёс.

### *Вялікая Вада*

Не ўцячы ад Вялікай Вады.
У яе свой закон і парадкі.
І дадому ўжо шляху няма —
Каб прайсці,
я наладжваю кладкі.

А яна падступае зноў,
Уначы не бачная людзям.
І ўрываецца ў цішу сноў,
І дакорам рве мае грудзі.

Той Вялікай Вадзе
Не паставіць грэблі і гаці.
Як вялікай бядзе —
Дзесь дарогу перакапаці.

Вось па грудзі яна,
Вось па горла яна і бровы.
Чарнабровым смяяўся —
Бач, заплакаў цяпер
сівабровым.

Не ўцячы ад Вялікай Вады,
Твае вежы запоўніць без жалю.
Попел мокры ляжыць,
Дзе гудзелі ліхія пажары.
А якія ж агні
Тут калісьці душу раздзіралі!
Ціха падаюць слёзы
На цёмнае дно, як каралі.
Не ўцячы ад Вялікай Вады.
Падступае яна, падступае.
Я не чую, не бачу —
Тыя хвалі на памяць я знаю.
Я стаю, я іх прагну,
Я іх, звар'яцелы, наклікаў,
Той Вялікай Вадою
Па душу ўжо заліты.

### *Помста жар-птушкі*

Я чуў, ды збаяўся начы
вераб'інай.
Грымела, і вецер шпурляўся
націнай,
А родныя спалі, і поўнілі
страхам
Рыданне якоесьці, крылаў
узмахі.

А ранкам пайшоў, як забойца,
таемна.
Блукаў. Захлынаўся надзеяй
дарэмнай.
І ўрэшце — няхай не паверыць
каторы —
Знайшоў я жар-птушкі
агністыя пёры.

У друзе глухім, у кустоўі
бур'яну
Гарэлі яны прыгажосцю
нязнанай.
І, паламаныя чорнаю хвіляй,
Мне ў вочы глядзелі, мне вочы
палілі.

Адно з іх у рукі я ўзяў.
Трапяткое,
Як шыла, калолася пер'ейка
тое.
Ад помслівай сілы, нібы
ад жыгучкі,
Далоням балюча. І сэрцу
балюча.

Няўжо тут была ты? І білася
крыллем?
Нашто гэтак позна мне праўду
адкрыла,
Што, шэрасцю будняў
няўмольна спавітай,
Душы вечна плакаць
па птушцы забітай...

Пераклала В. ІПАТАВА

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Букчыну Сямёну Уладзіміравічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.**

